# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

29 лютага 1924 г. № 2. Арт. 16—60.

### ЗЬМЕСТ.

# Пастановы II-га Зьезду Саветаў

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**16. Адозва 2-га Зьезду Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік да працоўнага чалавецтва.**

Мы хаваем Леніна. Сусьветны гэні працоўнае рэвалюцыі адляцеў ад нас. Асілак думкі, волі, справы памёр. Сотні мільёнаў рабочых і сялян, каланіальных паднявольнікаў аплаківаюць сьмерць магутнага правадыра. Працоўныя Расіі якіх ён злучыў, павёў у пераможную бойку, правёў праз ўсе небясьпекі сваей мудраю зялезнаю, ўладнаю рукою, сотнямі тысяч штурхаюцца каля яго сьмертнага ложа. З усіх канцоў сьвету лятуць хвалі суму, жалобы і гневу. Ворагі супроць якіх вёў шалёнае змаганьне вогняны рэвалюцыянэр нявольна схіляюць сваё сьцягі. Усе зразумелі што закацілася ясная зорка чалавецтва. З труны сваёй Ленін устаў перад сьветам ў весь свой вялізарны ўзрост.

На мяжы новай эпохі ў вякох будзе стаяць гэта вялікая постаць. Бо Ленін быў і будзе, нават пасьля сваёй фізычнай сьмерці, правадыром новага чалавецтва прарокам і тварцом новага сьвету.

З стагодзьдзяў у стагогодзі цягнецца чарод намераў звальненьня ад гневу паднявлі, і прымусу. Але першы раз ў сусьветнай гісторыі прыгнечаныя клясы вышлі на арэну змаганьня і здолелі. Першы раз яны замацавалі сваю перамогу сталёвай броняй пралетарскае дыктатуры. Першы раз – гарадзкія пралетары, сялянін— бядак, забіты паднявольнік былых царскіх калёніяў адчувалі сябе гаспадарамі новага жыцьця будаўнікамі свайго гістарычнага лёсу. Першы раз у гісторыі чалавецтва працоўныя масы ўбачылі сваю ўласную моц:

Так, яны могуць здолець! Напэўна яны могуць пабудаваць і яны пабудуюць ўладарства працы, аб якім марылі лепшыя, самыя сьветлыя галовы чалавецтва.

Айцом гэтага чалавецтва ужо даўно назвалі Леніна прыгнечаныя народы Азіі. Сваім каханым і мудрым правадыром лічуць Леніна рэвалюцыйны пралетарыат Эўропы і Амэрікі, вялікіх цывілізаваных канцінэнтаў нашага часу. І ў гэтай нявіданай сусьветна-гістарычнай сувязі, ў гэтым сусьветным хаўрусе ўсіх прыгнечаных, усіх паднявольных, ўсіх працоўных ляжыць заклад перамогі над капіталам гэтай д'ябальскай перашкодай грамадзянскага разьвіцьця.

Няўстрымным вулканам рэвалюцыйнай энергіі быў Ленін, за якім хвалявала цела мора надземнай рэвалюцыйнае лавы. Але ён браў для сябе ўсё лепшае, што давала старая культура, маючая ў сваіх руках цудоўнае арудьдзе марксіскае тэорыі, ён, чалавек—навальніцы і буры, ўводзіў магутную зруйнаваўшую стыхію мас ў гранітныя берагі рэвалюцыйнай мэтаздольнасьці і розуму.

Яго здольнасьць да прадбачыньня была вельмі вялікая. Яго ўменьне арганізоўваць масы было вельмі дзіўнае. Ён быў вялікім з правадыроў ўсіх краін ўсіх часоў і ўсіх народаў. Ён быў правадыром новага чалавецтва звальняючага сьвет.

Ленін памёр. Але Ленін жыве ў сэрцы мільёнаў людзей. Ён жыве ў магутным нападзе чалавечаскіх мас. Ён жыве ў вялікім хаўрусе рабочых і сялян, пралетарыяў і прыгнечаных нацыяў. Ён жыве ў супольным розуме камуністычных партыяў. Ён жыве ў рабочай дыктатуры, якая моцнай цьвярдыняй стаіць на межах Эўропы і Азіі.

Памірае стары сьвет. Распластанай з'увечанай, пакалечанай, ляжыць старая Эўропа, маці капіталістычнай цывілізацыі. Вякамі працаваў эўрапейскі капітал будуючы рукамі рабочых цуды тэхнікі, шугаў па ўсяму сьвету, прыгнечываючы мільёны, наступаючы сваёй зялезнай пятой на абедзьве паўкулі зямлі. Вякамі замацоўваў ён на зямлі ўладарства зайздрасьці і нажывы крыві гразі і прыгнечаньня. Але заблытаўшыся ў сваёй уласнай сетцы, павярнуўшы сваю тэхніку і навуку ў сродак страшэннага самазьнішчэньня, ён даў першую трэшчыну ў сусьветнай вайне. Развіхлялася, захісталася, гатова згінуць зараз д'ябальская машына капіталу. На дно цягне капітал ўсю Эўропу і ўвесь сьвет. І толькі адна моц, вялікая звальняючая, перамагаючая знажа спасьці яго: гэта моц працоўных мас, гэта энэргія і воля рабочага клясу, які вядзе і злучае сотні мільёнаў.

Правадыром гэтых грунтоўных мас чалавецтва і быў тав. Ленін. Ён меў ўсе ключы да душ самай адсталай часткі рабочых і сялян. Пранікаўшы ў самы асяродак чалавечаскіх душ ён будзіў іх самасьвядомасьць, іх клясавы інстынкт, ён выводзіў на дарогу самых забітых самых прыгнечаных. Перад тварам моцных сьвету гэтага ён кінуў ў паднімаючыеся масы просты і шалёна—сьмелы лёзунг „Уся ўлада саветам“! І гэта цуда пачало зьдзейсьнівацца. Расьце і ўзмацняецца хаўрус нашых ўладарстваў. Для новага жыцьця паднімаюцца з самых глухіх нізоў новыя людзі, простыя рабочыя і работніцы, сяляне і сялянкі. Яны ўсё больш ўсё часьцей, ўсё рашучай бяруцца за рычажку дзяржаўнай ўлады—і крок за крокам зьменяюцца старое, драхлае, нягоднае. Пасьля крывавых бояк паднімаецца на ногі наша краіна і расьце уладарства працы, ўладарства рабочых і сялян.

Мы згубілі ў Леніне галоўнага капітана нашага карабля. Гэта страта незамяніма. Бо на ўсім сьвеце ня было такой сьветлай галавы, такога вялікага розуму такой непахільнай волі, якія былі ў Леніна. Але мы бяз страху глядзім ў будучыну. Рукою майстра правёў тав. Ленін нашу дзяржаву сярод радоў вялікіх небясьпечнасьцяў. Справа моцна пастаўлена на правідловы шлях. Сотні тысяч вучняў Ўладзіміра Ульіча моцна трымаюць вялікі сьцяг.

Мільёны злучаюцца наўкол іх. І нават фізычнай сьмерцьцю сваей ён атдае апошні загад: „Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!“

Таварышы і браты! Вышэй уздымайце нашы чырвовыя сьцягі! Ня ведайце хістаньняў у нашім вялікім звальняючым змаганьні. Пралетарыям няма чаго губляць, апрача сваіх ланцугоў. Здабудуць-жа яны цэлы сьвет.

„Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!“

2-й зьезд Саветаў Саюзу ССР.
26 студзеня 1924 году Масква.

**17. Аб аб'вяшчэньні 21 студзеня днём жалобы па ўсім абшары Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.**

2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялісгычных Рэспублік **пастанаўляе;**

Падцьвердзіць пастанову XI Ўсерасійскага Зьезду Саветаў аб аб'вяшчэньні 21 студзеня, дзень сьмерці У. І. Ульянова (Леніна) днём жалобы і распаўсюжыць гэтую пастанову на усім абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

*Старшыня 2-га Зъезду Саветау*
*Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар 2-га Зъезда Саветау*
*Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

26 студзеня 1924 г. Масква.

---

**18. Аб пабудаваньні помнікаў Ул. І. Леніну.**

Імя старшыні Саветаў Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік і Савету Народных Камісараў Расійскай Социялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі Ўладзіміра Ільіча Ульянова (Леніна) неразрыўна связана з гэраічным змаганьнем працоўных за устанаўленьне социялістычнай арганізацыі грамадзянства і перамогу социялізму ва усіх краінах.

Імя першага старшыні рабоча-сялянскай ўлады будзе заўсёды жыць у розумах і сэрцах, як у людзей адначасова жыўшых з ім, гэтак сама і ў будучых пакаленьнях. Пад непасрэдным кіраўніцтвам Уладзіміра Ільіча рабочыя і сяляне паклалі ў рэволюцыйныя дні кастрычніка пачатак усіх далейшых дасягненьняў.

Постаць вялікага правадыра павінна быць увекавечана для ўсіх будучых пакаленьняў і служыць пастаянным напамінаньнем і заклікаўем да змаганьня і канчатковай перамозе камунізму.

У гэтых мэтах 2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

**1.** Пабудаваць ад імя Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Расійскай Соцыялістычнай Савецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі ў г. Маскве, а гэтак сама ў сталіцах іншых саюзных рэспублік Харкаве, Тыфлісе і Менску і ў гарадох Ленінградзе і Ташкенце помнікі У. І Леніну.

**2.** Даручыць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і яго Прэзыдыуму распрацаваць і зацьвердзіць належныя праэкты помнікаў; выбраць пэўны час іх пабудаваньня ў асобных гарадох і адпусьціць неабходныя сродкі.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау*
*Саюза ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау*
*Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

26 студзеня 1924 г. Масква.

---

**19. Аб выданьні твораў У. І. Леніна.**

Лепшым помнікам Уладзіміру Ільічу Леніну будзе шырокае масавае распаўсюджаньне яго твораў, якія робяць ідэі камунізму каштоўнасьцю усіх працоўных. 2-й Зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік прапануе інстытуту У. І. Леніна ўзяць самыя тэрміновыя крокі да выданьня даступных народу самых лепшых твораў У. І. Леніна ў мільёнах спыткаў на розных мовах у асабістасьці на ўсходніх, з тым каб у першую чаргу былы выданны тыя творы, якія маюць асабіста важнае значаньне для шырокіх колаў рабочых і сялян. Разам з тым інстытуту У. І. Леніна прапануецца так сама тэрмінова выпусьціць поўны зборнік твораў тав. Леніна ў вытрымана навуковым духу.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау*
*Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау*
*Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

25 студзеня 1924 г. Масква.

---

**20. Аб утварэньні адумысловага фонду для арганізацыі дапамогі безпрытульным дзецям імяні У І. Леніна пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

Утварыць пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік адумысловы фонд імяні У. І Леніна для арганізацыі дапамогі бязпрытульным дзецям ў асабістасьці ахвярам грамядзянскае вайны і голаду.

З гэтаю мэтай даручыць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік вызначыць суму фонду форму, дапамогі і сістэму мерапрыемстваў па зьдзейсненьню паказанай дапамогі.

*Старшыня 2-га Зъезду Саветау*
*Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау*
*Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

26 студзеня 1924 г. Масква.

---

**21. Аб пабудаваньні склепу для захаваньня праху Ул. І. Леніна.**

Ідучы на спатканьне жаданьню, якое заявілі шматлікавыя дэлегаты і зварочаньне да Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, і ў мэтах здаволіць усіх жадаючых, ня маючым магчымасьці паспець у Маскву ў дзень пахаваньня, разьвітацца з каханым правадыром, 2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

Падцьвердзіць наступную настанову Прэзыдыуму

Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

1. Труну з целам Уладзіміра Ільіча захаваць ў склепе, зрабіўшы апошні даступным для наведываньня.

2. Склеп утварыць каля Крэмлёўскае сьцяны на Чырвоным пляцу, сярод братэрскіх магіл кастрычнікавай рэвалюцыі.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

26 студзеня 1924 г. Масква.

## 22. Аб перайменьні гораду Петраграду ў Ленінград.

Чырвоны Петраград—калыска пралетарскай рэвалюцыі. Заслугі Ленінградцкіх рабочых перад нашым Саюзам Савецкіх Социялістычных Рэспублік бязьмерна вялікія. Вялікія здарэньня кастрычніка 1917 г. якія вырашылі лёс нашай краіны, былі як раз у Петраградзе. Дзесяткі і сотні тысяч петраградцкіх рабочых першыя пашлі за таварышом Леніным у вагонь і утварылі першыя зялезныя атрады тэй арміі, з якой Уладзімір Ільіч Ленін перамог буржуазію. У Петраградзе вялікая пралетарская рэвалюцыя атрымала першую, рашучую перамогу. Тут утварыліся першыя атрады пралетарскай чырвонай гвардыі, і тут закладзена была грунтоўная чырвоная армія. Ні голад, ні холад, ні блёкада, ні дзесяткі другіх перашкод ня зламалі дух пралетарскага Петраграду.

Як недаступная скала высіўся ўсе гэтыя гады Чырвоны Петраград застаўшыся і дагэтуль першаю цытадзельню савецкай ўлады. Адсюль па клічу тав. Леніна вышлі дзесяткі рабочых—будаўнікоў новай Расіі шчырых праваднікоў ідэяй У. І. Леніна.

Росквіт рэвалюцыйнай дзейнасьці У. І. Леніна пачаўся ў Петраградзе. У гэтым горадзе быў утворан першы работніцка-селянскі ўрад ва ўсім сьвеце.

З прычыны ўсяго гэтага 2 Зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ліча зусім правідловым здаволіць прозьбу Петраградскага Савету рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, падтрыманую рэзалюцыямі ўсіх фабрык і заводаў Петраграду, аб перайменьні гораду Петраграду у Ленінград.

Няхай адсюль гэты вялікі асяродак пралетарскае рэвалюцыі назаўсюды будзе зьвязанзімям вялікшага з правадыроў пролетарыата, Уладзіміра Ільіча Ульянова-Леніна.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 студзеня 1924 г. Масква.

## 23. Па дакладу аб дзейнасьці савецкага ўраду.

Заслухаўшы і абсудзіўшы даклад намесьніка старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік і Расійскай Социялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі, т. Каменева аб дзейнасьці Савецкага ўраду за прошлы 1923 год, 2-гі Зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік цалкам адабраюць дзейнасьць ураду.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

31 студзеня 1924 г. Масква.

## 24. Аб зацьверджаньні Аснаўнога Закону (Конституцыі) Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

Заслухаўшы даклад тав. Енукідзе аб зацьверджаньні Аснаўнога Закону (Констытуцыя) Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік 2 гі Зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік **пастанаўляе**:

Аснаўны Закон (Констытуцыю) Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік пастаўлены ў выконаньне рэзалюцыі 1-га Зьезду Саветаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік на канчатковае зацьверджаньне 2-му Зьезду Саветаў Саюзу Социялістычных Рэспублік—зацьвердзіць з гэтакімі папраўкамі;

У артыкуле 15—увагі, пасьля слоў „Паўднёва Осеція“ дабавіць: „Нагорный Карабах і Нахічеванская область“.

У артыкуле 26 дапоўніць. Для утварэньня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік і Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, згодна арт. арт. 26 і 37 гэтае констытуцыі, адбываецца агульнае пасяджэньня Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў. Галасаваньне на сумежным пасяджэньні адбываецца паасобку Саюзным Саветам і Саветам Нацыанальнасьцяў.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

31 студзеня 1924 г. Масква.

## 25. Аб арганізаваньні Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку.

2-гі зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляе**:

У мэтах паступовай і ўсебаковай дапамогі—адбудаваньню сельскай гаспадаркі шляхам адводу яму крэдытнай дапамогі, а гэтак, сама ў мэтах утварэньня і возглаўленьня сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту заснаваць Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Банк Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

Ўсесаюзный характар дзейнасьці Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку выходзіць як з вялікага значаньня сельска-гаспадарчага крэдыту для ўсяго Саюзу гэтак і патрабаньню рашаць пытаньні сельска-гаспадарчага крэдыту улагоджана, у інтэрэсах ўсяго Саюзу, заўважаўшы ў той жа час і канкрэтныя асабістасьці сельскае гаспадаркі кожнай рэспублікі, краіны і губэрніі.

Дзейнасьць Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку будзе найбольш пасьпешнай толькі пры налічыі поўнай пагоджанасьці операцыяў банку з палітыкай ўраду саюзных рэспублік, ў галіне сельска-гаспадарчага крэдыту. Дзеля гэтага Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Банк павінен праводзіць ўсе свае опэрацыі за выключэньнем опэрацыяў агульнасаюзнага значаньня, праз банкі саюзных рэспублік і праз тутэйшыя грамады сельска-гаспадарчага крэдыту не адчыняючы ўласных адзяленьняў кантор і г. д. У свой чарод банкі саюзных рэспублік павінны пагаджаць свае крэдытныя пляны с Цэнтральным Сельска-Гаспадарчым Банкам.

Грунтоўным заданьнем ўсіх установаў сельска-гаспадарчага крэдыту зьяўляецца абслугоўваньне патрэб селянскага насельніцва, шляхам прэдастаўленьня найбош таннага, пры цяпэряшніх умовах, крэдыту.

Першапачатковы грунтоўны капітал банку азначыць у сорак мільёнаў рублёў золатам.

Вялікае і цяжкоя заданьне арганізаваньня сельска-гаспадарчага крэдыту павінна быць выпаўнена, толькі пры тэй ўмове, калі усільля і сродкі савецкага ураду спаткаюцца з магутнай хваляй самадзейнасьці самаго сялянства. Толькі арганізацыя па усей тэрыторыі Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік шырокай сеткай сельска-гаспадарчых крэдытных кооператываў і іх хаўрусаў, а гэтак сама ніжэйшых ячэяк сельска-гаспадарчай коапэрацыі адчынюць магчымасьць крэдыта—сялянству.

Толькі пры дружнай і супрацоўнічай працы цэнтральных і мясцовых крэдытных установаў, пры поўнай дапамозе органаў ўлады ў цэнтры і на мясцох справе арганізацыі сельска-гаспадарчага крэдыту магчыма будзе зьдзейсьніць гэта важнае заданьне ў справе адбудаваньня сялянскай гаспадаркі.

2-гі Зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік даручае Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэпсублік зацьвердзіць статут Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку і прыняць ўсе крокі да скарэйшага правядзеньня ў жыцьце гэтае пастановы.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветау Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

1 лютага 1924 г. Масква.

---

## 26. Аб мерапрыёмствах ў галіне грашовай палітыкі Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік.

Заслухаўшы доклад народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік **пастанаўляе;**

I.

**1.** З тэй прычыны, што грашовае становішча Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік знаходзіцца зараз больш, чым калі небудзь, ў выключнай залежнасьці ад узросту і ўмацаваньня народнай гаспадаркі Саюзу—прызнаць магчымым і неабходным ўсімі сродкамі грашовай палітыкі дапамагаць максімальна хутчэйшаму разьвіцьцю вытворчых сілаў і ажыўленьню таваразвароту краіны.

**2.** Гэтакімі сродкамі грашовай палітыкі з'яўляюцца: грашовая рэформа, далейшая рэформа падатковай справы рэальны дзяржаўны і мясцовы бюджэт, пасільнасьць іх для цяперашняга становішча народнай гаспадаркі а гэтак сама рэзкае павялічаньня прыбытку непадаткавага характару.

**3.** Далейшая падатковая рэформа, зьвязаная з кольхасным памяньшэньнем, але якасным паляпшэньням падаткаў і падатковага аппарату, павінна быць пабудована: а) усімі спосабамі дапамагаць разьвіцьцю прыбыткова-памаемтнага падатку і ў поўным выяўленьні яго клясавага значаньня, як рэгулятара навальнасьці; б) на рэарганізацыі адзінага сельска-гаспадарчага падатку на пачатках, паказаных ў гэтым пастанаўленьні; в) па скарачэньні ліку мясцовых падаткаў; г) на паступова праведзенай дыфэренцыяцыі акцызных ставак, распаўсюжаўшы іх на якасьць, дарагавізну і прадажную цану падакцызных прадуктаў; д) на палепшаньне вылічэньняў прамых падаткаў і е) на ўзмацаваньне абложаньня нявытворчага патрабленьня.

II.

**4.** Прыдаваўшы асабіста важнае значаньне прыбыткова—памаемнтаму падатку. Зьезд даручае народнаму камісару грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік на бліжэйшай сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік зрабіць даклад аб апошняй кампаніі па праведзеньню гэтага падатку і прыгатаваць праэкт неабходных паправак і зьменаў да наказу аб прыбыткова-памаемтным падатку.

III.

**5.** Вопыт апошняй кампаніі па праведзеньню адзінага сельска-гаспадарчага падатку і аналіз яго вынікаў гавораць аб неабходнасьці рэарганізаваць адзіны сельска-гаспадарчы падатак на гэтакіх падставах.

а) падатак павінен быць прагрэсыўным з максімальным прыбліжэньнем яго да прыбытковага і звальненьня ад яго беднаты;

б) падатак павінен вылічацца ў залатых рублёх, а не ў натуральных адзінках;

в) сялянскае прамое абложаньня, як дзяржаўнае, так і губэрска-валаснае (раёнае) у 1924—1925 г.г. павінна быць з'арганізавана як адно, ў сэнсе аднячасовасьці устанаўленьня акладаў і аднаго акладнога лісту;

г) стаўкі падаткаў павінны быць установлены неагульныя, для ўсяго Саюзу, а розныя для усякіх раёнаў, пристасаваўшы да іх эканамічнай моцы, тыпаў сялянскай гаспадаркі, забясьпечнасьці раёнаў шляхамі зносін, налічам рынку, збыту і г. д.

д) падатак павінен быць пабудован, як падатак на абагульваньне прыбыткаў сялянскай гаспадаркі, а ня толькі з земляробства, як гэта рабілася ўвесь час цяпер.

**6.** У гэтых мэтах даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў зараз-жа прыступіць да распрацоўкі канктрэтнага праэкту дэкрэту аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1924—25 гады, падаўшы яго на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Для таго, каб падатковая сыстэма адпавядала разнакалібнасьці сялянскай гаспадаркі асобых раёнаў даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік у кароткі тэрмін разглядзець пытаньне адносна магчымасьці зьмены у 1924—25 годзе сыстэмы аблажэньня, паставіўшы яго на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

IV.

**7.** У галіне дзяржаўнага і мясцовага бюджэту неабходна дабіцца зьніжэньня іх да такіх разьмераў, якія-б запяспечылі поўную рэальнасьць іх выкананьня і адначасна не затрымоўвалі-б адбудаваньня народнай гаспадаркі, меўшы вельмі вострую патрэбу у навальнасьці капіталаў.

Зьезд даручае Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістылных Рэспублік і саветам народных камісараў саюзных рэспублік, весьці далейшае змаганьне, па разгрузцы дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў ад усякіх выдаткаў, ня меўшых значаньня першачарговай патрэбы а гэтак сама выдаткаў, выцекаўшых ад неправідловай і не эканамічнай пабудоўкі працы асобных установаў і прадпрыёмстваў.

V.

**8.** У галіне павялічэньня прыбыткаў непадатковага характару, неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на максімальна скоры учот прыбытковых магчымасьцяў рэспублік, ў мэтых іх усебакавога выкарыстаньня: ў асабістасьці, прызнаць самай важнай галіной працы у гэтым напрамку магчыма больш хуткую і правідловую пастаноўку лясной гаспадаркі, а гэтак сама вельмі тэрміновае разледжаньне балансаў 1922—23 гадоў усіх прамысловых, гандлюючых і сельска-гаспадарчых прадпрыёмствах, пераведзяных на пачатак камерчаскага разрахунку, ў мэтах скарыстаньня вядомай часткі прыбытку з іх прадпрыёмстваў у прыбытак агульна-дзяржаўнага, ці мясцовага бюджэту.

VI.

**9.** Зьезд лічыць, што выявіўшаяся ня грунце праэкту народнага камісарыяту грашовых справаў павялічаньне дзяржаўнага бюджэту на 1924—25 год, ў параўнаньні з мінулым годам, зьяўляецца мяжовым і даець нават некалькі большы вырост, чым прадглежанае павялічаньне грамадзянскай прадукцыі. Дзеля гэтага Зьезд даручае Савету Народных Камісараў і Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік прыняць катэгарычнае кіраўніцтва і выкананьне зацьверджаньне 3-й сэсіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік становішча, згодна якому частка бюджэтнага дэфіцыту, якая ня можа быць пакрыта нармальнымі падатка-прыбытковымі паступленьнямі і крэдытамі апераваямі, ня можа пераходзіць ў гэтым бюджэтным годзе 180.000.000 рублёў ці 15.000.000 рублёў у месяц.

Зьезд даручае народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік весьці далей сваю працу па поўнаму размежаваньню і устанаўленьню бюджэтных правоў Саюзу і асобных саюзных рэспублік і ўнесьці адпаведны праэкт на чарговую сэсію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Адначасна Зьездам даручаецца Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік утварыць адумысловую камісію па разгледжаньню пытаньня аб бюджэтных правох Саюзу і Рэспублік і даручае народнаму камісарыяту грашовых справаў загадзьдзя унесьці свае праэкты на разгледжаньне камісіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

Зьезд даручае Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік у тэрміновым парадку прыступіць да разгледжаньня бюджэту і даць яго на зацьверджаньне Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

VII.

**10.** У адносінах мясцовага бюджэту Зьезд лічыць неабходным;

а) Больш інтэнсыўнае выкарыстаньне ўсіх непадатковых прыбыткаў ад усіх маемасьцяў і прадпрыёмстваў, якія маюць ня толькі фіскальнае, але і вялікае арганізуючае гаспадарчае значаньне, бо гэта работа мясцовых саветаў і выканаўчых камітэтаў павінна адыграць ролю важнага атпраўнага пункту ў справе аздараўленьня ўсей нашай сыстэмы гаспадаркі ў адносінах да тых прадпрыемстваў і маемасьцяў якія належаць савецкай ўладзе.

б) У гэтых мэтах зрабіць хутчэйшае размежаваньне маемасьцяў агульнасаюзнага рэспубліканскага значаньня на грунце пастановаў 3-й сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і загаду аб маемных правох мясцовых саветаў. Праца па размежаваньню маемасьцяў паміж асобнымі бюджэтнымі адзінкамі павінна быць зкончана ня позьней як 1 красавіка 1924 году.

Адначасна ў загадчым парадку павінна быць урэгуліравана пытаньне па арганізацыі ў прыбытковай часцы мясцовых бюджэтаў, парушаны ня свойчасовым узносам агульнасаюзнымі рэспублікамі і мясцовымі гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі і установамі утвораным на карысьць мясцовых бюджэтаў адлічэньняў і надбавак.

в) У мэтах выключэньня рэзкай ня паступовасьці ў ровень здавальненьня патрэб мясцовага жыхарства розных раёнаў, і асабіста акраін—паглыбіць пачатую народным камісарыятам грашовых справаў працу па перагледжаньню сістэмы падаткова-прыбытковых адлі-

чэньняў мясцом на грунце учоту саветамі народных камісараў саюзных рэспублік культурна-эканамічных асабістасьцяў, моцы мясцовых бюджэтаў асобных губэрняў, аўтаномных краін і рэспублік; даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік пытаньне аб практычных мерапрыёмствах па палепшаньню матар'яльнага становішча асобных рэспублік і краін.

VIII.

Важнейшым чарговым гаспадарчым пытаньнем Зьезд Саветаў лічыць упарадкаваньне грашовай рэформы, правідлова пачатую ўвядзеньнем чэрвонца замест падаючага грашовага знаку і увесьці у зварот сталыя казначэйскія білеты. Зьезд даручае Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік прыняць ўсе неабходныя крокі да правядзеньня вельмі важнага для Саюзу справы грашовай рэформы без хваравітых вынікаў і прымусіць ўсе дзяржаўныя установы і прадпрыёмствы максімальна дапамагаць камісарыяту грашовых справаў ў гэтай справе.

IX.

12. На чале з ўводам грашовай рэформы Зьезд дáручае народнаму камісарыяту грашовых справаў прыняць ўсе неабходныя крокі да далейшага разьвіцьця і ўмацаваньня істнуючай сеткі крэдытных установаў, да магчыма больш хуткага утаненьня крэдыту, а гэтак сама уважна сачыць за тым, каб палітыка крэдытных установаў усімі спосабамі дапамагала устанаўленьню больш правідловых і нармальных саадносін паміж цэнамі на сельска-гаспадарчыя і прамысловыя тавары і была б зьвязана з агульна-гаспадарчым плянам Саюзу.

X.

13. Ўсе гэтыя мерапрыёмствы грашовага характару павінны дапамагаць узносу ў народную гаспадарку Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік неабходныя элементы сталага і паступовага разьвіцьця і могуць зрабіць асабіста моцны і доўгі уплыў на пашырэньне таваразвароту краіны і далейшае разьвіцё таварнасьці сельскай гаспадаркі.

Але адначасна Зьезд падкрэслівае, што для таго, каб гэтыя мерапрыёмствы далі ўвесь неабходный дадатны народна-гаспадарчы вынік, неабходна, разам гэтым прыняць самыя энэргічныя, рашучыя крокі ў адносінах аздараўленьня пастаноўкі справы ва усіх дзяржаўных, гандлёвых, прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыёмствах, у сэнсе паніжэньня выдаткаў вырабу, у асабістасьці пры прыгатоўцы хлеба і ў сэнсе устанаўленьня правідловых і неабходных саадносін цэнаў на прамысловыя і сельска-гаспадарчыя прадукты.

14. Зьезд прапануе Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік зьвярнуць асабістую увагу на магчыма хутчэйшае і дадатковае рашэньне гэтых пытаньняў, якія, агульна з грашовымі мерапрыёмствамі, пахваленьня Зьездам, могуць і павінны зрабіць вялікі уплыў на адбудаваньне ўсей народнай гаспадаркі Саюзу, на палепшеньне матар'яльнага становішча дзесяткаў мільёнаў рабочых і сялян, якія яшчэ больш закрэпюць у абставінах слабеючага буржуазнага сьвету Савецкі Рабоча-Сялянскі Ўрад.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар 2-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

2 лютага 1924 г. Масква.

---

## 27. Аб прызнаньні Велікабрытаніяй Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Заслухаўшы паведамленьне аб поўным прызнаньні дэ-юрэ Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з боку Велікабрытаніі і аб устанаўленьні паміж гэтымі дзьвюмя дзяржавамі нармальных дыпляматычных зносін поўным абхваце, 2-гі Зьезду Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з здавальненьнем падкрэсьліваюць, што гэты гістарычны крок, зьявіўся адным з першых актаў першага ўраду Англіі высунатага рабочым клясам.

Рабоча-сялянскі ўрад Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік вышаўшы ім з вялікай рэвалюцыі паставіў сваім першым заданьнем змаганьне за згоду і упарта дабіваўся ўвесь час свайго існаваньня аднаўленьня нармальных зносін з ўсімі народамі. Да жалю, ні адно з пярэдняйшых урадаў брытанскіх не пашло на сустрэч імкненьню ўраду Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Больш таго, у траўні прошлага году Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік быў пастаўлен ангельскай дзіплёматыяй перад фактам ульціматуму, які пагражаў сарваць пачаўшыяся гандлёвыя адносіны і стварыў прамую небяспечнасьць нарушэньня міру ў Эўропе.

Рабочы кляс у Англіі зьяўляется у працягу ўсяго гэтага часу верным хаўрусьнікам працоўных мас Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ў іх змаганьні за мір.

Народы Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік помняць высілкі працоўных мас. Англія і папярэднія часткі ангельскага грамадзянства накіраваныя за скасаваньня байкоту і ў поўнай вайскквай зброі інтэрвэнцыі. Яны даюць сабе адлік ў тым, што наступіўшае прызнаньне зьявілася вынікам настойнай волі ангельскага народу аднадушна запатрабаваўшых палітычнага прызнаньня савецкага ўраду, як неабходнай ўмовы для ўмацаваньня ўсеагульнага міру, адбудаваньня разруйнаванай імпэрыялістычнай вайной сусьветнай і, у асабістасьці, для пасьпешнага змаганьня з прамысловым застоям і беспрацоўем ў самой Англіі.

Вынікам аб'яднаных высілкаў, згодалюбівай палітыкі савецкага ўраду пад кіраўніцтвам Ул. І. Леніна, і моцна выказанай упартай волі ангельскага народу, зьявілася нарэшце устанаўленьне нармальных адносін паміж дзьвюмя краінамі ў форме, вартай вялікіх народаў абедзьвюх краін і закладываючай фундамэнт для іх сяброўска супрацоўніцтва.

У напружнай атмосфэры сучасных паміжнародных адносін, пошаснай небясьпечнасьці новых сусьветных ўзбуйвеньняў і прымаючых ў загаднай трэвожнасьці працоўных ўсіх краёў, гэты крок ангельскага рабочага ўраду прымае асабіста выдатнае значаньне.

2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік заяўляе, што супрацоўніцтва народаў Велікобрытаніі і Саюзу Савецкіх Соцыялістычаых Рэспублік няйзменна застанецца аднэй з першых клопатаў Саюзнага Савецкага Ураду, якія, ў згодзе са усёй сваей наступнай палітыкай міру, зробіць ўсе стараньні да разрашэньня усіх спрэчных пытаньняў і ўмацаваньня эканамічных зносін, вельмі патрэбных да гаспадарчага і палітычнага дабрабыту народаў абедзьвюх краін і ўсяго сьвету.

2 зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік працягівае сяброўскую брацкую руку ангельскаму народу і даручае Саюзнаму Ураду прыняць перад ангельскім урадам ўсе неабходныя і выцекаючыя з факту, прызнаньня савецкага ўраду, крокі.

*Старшыня 2-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар 2-га Зьезду Саветаў Союзу ССР* **А. Енукідзе.**

2 лютага 1924 г. Масква.

# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

### 28. Аб выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы.

Выходзячы з бязумоўнага росту народнае гаспадаркі, рабоча-сялянскі ўрад лічыць патрэбным цяпер-жа прыступіць да шэрагу крокаў, пакіраваных на тое, каб утварыць моцныя грошы, вартасьцью меньш аднаго чырвонца, мяркуючы велічыню выпуску іх з патрэбамі гандлёвага звароту.

Ажыцьцяўляючы першы крок на гэтым шляху, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

**1.** Пусьціць у ход білеты дзяржаўнае скарбніцы вартасьцью ў 1 (адзін) рубель, 3 (тры) рублі і 5 (пяць) рублёў золатам.

**2.** Зрабіць абавязковым прымаць білеты дзяржаўнае скарбніцы па усім абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік усімі скарбніцамі народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік у выплату усіх дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў, а так сама ўсімі установамі, прадпрыёмствамі і асобамі пры усялякіх выплатах па іх залатому номінальнаму кошту у тых выпадках, калі выплата разьлічана у золаце, або па афіцыяльнаму курсу залатога рубля у тых выпадках, калі выплата разьлічана у савецкіх грашах.

**3.** Граніцу эмісіённага права народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік адносна агульнае сумы выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы устанавіць на 1 чысло кожчага месяцу у велічыні ня звыш паловы агульнае сумы выпушчаных у ход чырвонцаў, згодна балансу эмісіённага аддзелу дзяржаўнага банку на тое ж чысло, за вылічэньнем сумы даўгавых обявязацельстваў народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік адносна дзяржаўнаго банку.

**4.** Велічыню кожнага асобнага выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы у межах, паказаных у арт. 3, устанаўліваць асобнымі пастановамі Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**5.** Абавязаць народны камісарыят грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік агалошваць штомесяц веды аб суме выпушчаных білетаў дзяржаўнае скарбніцы на 1 чысло кожнага месяцу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

5 лютага 1924 р. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 30 „Известий" ВЦК Саюзу ССР ад 6 лютага 1924 г.

### 29. Аб залічэньні на бягучыя рахункі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР сумаў, прызначаных у адумысловы фонд імя Ул. І. Леніна дзеля арганізацыі данамогі бяспрытульным дзецям.

2-й Зьезд Саветаў Саюзу ССР ухваліў стварыць пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР адумысловы фонд імя Ул. І. Ульянова-Леніна дзеля арганізацыі дапамогі бяспрытульным дзецям.

Для выкананьня гэтае пастановы Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР паведамляе ўсіх, што ўсе сумы, прызначаныя ў адумысловы фонд імя Ул. І. Ульянова-Леніна дзеля арганізацыі дапамогі бяспрытульным дзецям, павінны накіроўвацца у кіраўніцтва дзяржаўнага банку Саюзу ССР для за-

лічэньня на бягучыя рахункі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР: для падачаў у чырвоным вылічэньні на рахунак № 10539 і для падачаў у чырвонцах на рахунак № 5951.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 31 „Известий" ВЦК Саюзу ССР ад 7 лютага 1924 г.

---

**30. Аб залічэньні на бягучыя рахункі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР сумаў, прызначаных дзеля вядомых мэтаў, зьвязаных з увекавечаньнем, памяці У. І. Ульянова-Леніна.**

Прымаючы пад увагу, што для увекавечаньня памяці Ул. І. Ульянова-Леніна апрача падачаў на утварэньне адумысловага фонду для арганізацыі дапамогі бяспрытульным дзецям, паступае гэтак-жа шэраг падачаў на іншыя вядомыя мэты (як: пабудаваньне склепу, пабудаваньне народнага дому і г. д.) і шэраг падачаў без наказаньня якіх-небудзь мэтаў,—Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ухваліў адчыніць прыёмку гэтых сумаў у асобны фонд імя Ул. І. Ульянова-Леніна. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР паведамляе усіх, што ўсе сумы ў гэты фонд належыць накіроўваць у кіраўніцтва дзяржаўнага банку Саюзу ССР для залічэньня на бягучыя рахункі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР: для падачаў у чырвоным вылічэньні на рахунак № 10023 і для падачаў у чырвонцах на рахунак № 5250.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Аголошана у № 31 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 7 лютага 1924 г.

---

**31. Аб забароне зьмены назваў ў імя Ул. І. Ульянова-Леніна без папярэдняга дазваленьня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.**

З мэтаю, каб дагадзіць йдучыя з месцаў хадайніцтвы аб дачы імя Ул. І. Ульянова-Леніна шэрагу гарадоў, пабудаваньняў і установаў, Прэзыдыум Цэнтральнаго Выканаўчага Камітэту Саюза ССР **пастанаўляе:**

Забараніць зьмены назваў у імя Ул. І. Ульянова-Леніна гарадоў, вуліцаў, пабудаваньняў, установаў і г. д. без папярэдняга дазваленьня на гэта Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаучага Камітэту Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 31 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 7 лютага 1924 г.

---

**32. Аб выпуску у ход грошаў узору 1923 году вартасьцьцю у 25.000 руб., з надпісамі на мовах, паказаных у арт. 34 Аснаўнога Закону Саюзу ССР.**

Дзеля таго, што ёсьць патрэба з боку гандлёва-прамысловага звароту у грашах болей вялікіх купюраў у параўнаньні з выпушчанымі да гэтага часу, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Выпусьціць у ход грошы ўзору 1923 году вартасьцьцю у 25.000 (двадцать пяць тысячаў) рублёў з надпісамі на гэткіх мовах, паказаных у арт. 34 Асноўнага Закону Саюзу ССР: расійскай, украінскай, беларускай, армянскай, грузінскай і тюрка татарскай.

2. Памянёныя у арт. 1 грошы ходзяць на адзінакавых падставах з грашамі узору 1923 году, выпушчанымі згодна пастановаў ад 24 кастрычніка 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 66, арт. 867), 9 лютага 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 12, арт. 157), 29 верасьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 8, арт. 232), 23 лістападу 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 9, арт. 263) і 18 сьнежьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 12, арт. 324).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыня СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

7 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 32 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 лютага 1924 г.

---

**33. Аб мясцовым збору за вэтэрынарна-санітарнае абгляданьне жывёлы і сырыя прадукты ад жывёлаў.**

У дадатак да арт. 40 часовага палажэньня аб мясцовых грашовых справах, зацьверджанага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Саюзу ССР 12 лістапада 1923 г., Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Даць магчымасьць мясцовым саветам, водлуг пастановаў губэрскіх (краінных) зьездаў саветаў або сэсіённых пасяджэньняў губэрскіх (краінных) выканаўчых камітэтаў, устанаўліваць дзеля павялічэньня мясцовых сродкаў збор за ветэрынарна-санітарнае абгляданьне жывёлаў і сырых прадуктаў ад жывёлаў, спаганяемые у месцах прадажы жывёлы і сырых прадуктаў ад жывёлаў (на кірмашох, рынках і г. д.), а гэтак сама пры перагонках або перавозках жывёлаў з аднае мясцовасьці у другую дзеля гандлёвых або прамысловых мэтаў.

2. Паказаны у арт. 1 збор не павінен перавышваць $^1/_4$% нармальнае ацэнкі жывёлы і сырых прадуктаў ад жывёлаў, падлягаючых абгляданьню.

3. Парадак, як спаганяць паказаны у арт. 1 збор, устанаўляцца саветамі народных камісараў саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 34 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 10 лютага 1924 г.

---

## 34. Аб скасаваньні дадатковага акцызу на кускавы цукар.

Дзеля скасаваньня пастановы УЦВК і СНК ад 22 сакавіка 1923 г. аб дадатковым абкладаньні кускавога цукру акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 24, арт. 280), п. „б“ арт. 6, пазд. 1 пастановы УЦВК і СНК ад 19 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні велічыні ставак акцызу на рэчы, абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 33, арт. 362) і п. „б“ арт. 7, дадатку да пастановы СПА ад 20 жніўня 1923 г. аб разьлічэньні цьвёрдых ставак акцызу у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА № 9, арт. 285 і Весьнік ЦВК, СНК і СПА № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дадатковы акцыз на кускавы цукар скасаваць.
2. Гэтую пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 34 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 лютага 1924 г.

---

## 35. Аб зʻіначэньні велічыні безакцызных адлічэньняў на пакрыцьце дарожных стратаў пры вывазе сьпірту за-кардон.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Скласьці пункт 2 арт. 5 пастановы ЎЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 году аб кроках дзеля паляпшэньня экспарту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 60) у наступнай рэдакцыі:

„**2.** На пакрыцьцё дарожных стратаў: а) калі перавозіцца сьпірт у бочках у першы дзень знаходжаньня у дарозе—0,5% і у кожны далейшы дзень—0,1%, але у агуле ня больш 6% ўсяго сьпірту, паказанага у паперы (докумэнце), якая йдзе з транспартам, і б) калі перавозіцца сьпірт у вагонах-цыстэрнах—у першы дзень знаходжэньня ў дарозе—0,3% і ў кожны далейшы дзень—0,02%, але ў агуле ня больш 1½% усяго сьпірту, паказанага ў паперы, якая йдзе з транспартам“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у 34 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 лютага 1924 г.

---

## 36. Аб звальненьні ад пасьведчваньня у натарыуса умоваў вайсковага і марскога ведомстваў аб пастаўцы рэчаў дзеля узброеньня і адумысловага тэхнічнага здавальненьня рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Совет Народных Камісараў Саюзу ССР **постанаўляюць:**

Утвараемыя вайсковым і марскім ведамствамі з дзяржаўнымі і прыватнымі особамі умовы аб пастаўцы рэчаў дзеля узброеньня і адумысловага тэхнічнага здавальненя рабоча-сялянскае чырвонае арміі і флёту ад пасьведчваньня у натарыуса звольніць.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 34 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 лютага 1924 г.

---

## 37. Аб зʻіначаньні тарыфу падачаў на сацыяльную забясьпеку дзеля установаў, знаходзячыхся на дзяржаўным і мясцовым бюджэце.

Дзяля зʻіначэньня п. „а“ арт. 2 пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 12 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні тарыфу падачаў на сацыяльную забясьпеку (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 31, арт. 342) і пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 7 сьнежня 1923 г. аб пашырэньні на установы і прадпрыемствы, знаходзячыяся на мясцовым бюджэце прывілейнага тарыфу падачаў на соцыяльную забясьпеку (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 9, арт. 273), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Устанавіць з 1 ліпеня 1923 году дзеля установаў, знаходзячыхся на дзяржаўным і мясцовым бюджэце, часовы прывілейны тарыф падачаў на сацыяльную забясьпеку у вялічыні 10% з усялякіх платаў за працу у тым ліку:

А. На часовую непрацаздольнасьць . . 4½%
Б. На калецтва. . . . . . . . . . 2%
В. На беспрацоўе . . . . . . . . . . ½%
Г. На дапамогу дзеля лекаў . . . . . 3%

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Союзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1923 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 34 „Известий“ ЦВК Союзу ССР за 10 лютага 1924 г.

---

## 38. Аб прызывах на сапраўдную службу у войсках грамадзян, якія радзіліся у 1902 г.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

**1.** Прызывы на сапраўдную службу у войсках грамадзян, якія радзіліся ў 1902 годзе, па усім абшары Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік зрабіць вясною 1924 годзе.

2. Дакладныя тэрміны і парадак прызываў устанаўляюцца загадам Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Союзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Нам. Старшыні СНК Союзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратарь ЦВК Союзу ССР* **А. Енукідзе.**

8 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.

Агалошана у № 34 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 10 лютага 1924 г.

## 39. Аб спыненьні эмісіі савецкіх грашовых знакаў, вартасьць якіх не пазначана у цьвердай валюце.

Дзеля таго, што пушчаны у ход білеты дзяржаўнае скарбніцы вартасьцьцю у 5, 3 і 1 рубль золатам і ёсьць на мэце выпусьціць срэбра, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Спыніць з 15 лютага 1924 году друкаваньне савецкіх грошаў, вартасьць якіх не пазначана у цьвердай валюце.

2. Спыніць з 15 лютага 1924 году выпуск памянёных у арт. 1 грошаў з валютнага кіраўніцтва народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, а так сама з асобных фондаў народнага камісарыяту грашовых справаў на месцах.

3. Зьніштожыць тым парадкам, які вядзецца, запасы памянёных у арт. 1 грошаў, астаўшыяся у кіраўніцтве фабрыкаў дзеля рыхтаваньня дзяржаўных знакаў, у валютным кіраўніцтве і у асобных запасных фондах народнага Камісарыяту грашовых спраў на месцах.

4. Памянёныя у арт. 1 грошы, выпушчаныя у ход да 15 лютага 1924 г. і знаходзячымся у скарбніцах народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, дзяржаўных і грамадзянскіх установаў і прадпрыёмстваў і у прыватных асобаў, захоўваюць законную плацежную моц да тэрмінаў, вызначаемых особнаю пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб парадку выкупу памянёных грошаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

14 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 38 „Известий" ЦВК Саюзу ССР за 15 лютага 1924 г.

## 40. Аб кроках дзеля пашырэньня данецкага вугля шляхам скарочаньня ужытку іншага апалу.

Вялізарнымі натугамі і ахвярамі на працягу прайшоўшых гадоў саюзным рэспублікам пашанцавала ня толькі захаваць ад разбураньня агальна-саюзную качагарку—Данецкі каменнавуглёвы басэін, але нават давясьці яго вытворчасьць да гэткага становішча, якое дае магчымасьць спакойліва глядзець на будучыну гэтага галоўнейшага дзеля гаспадарчага жыцьця Саюзу прадпрыёмства.

Між тым, здарыўшыйся у восень мінулага году прамысловы крах, які павёў за собою і крах збыту данецкага апалу, паставіў Данецкі каменна-вуглёвы басэін супроць сур'ёзнае погрозы паслабленьня або нават часткаю і страты з гэткім цяжарам дасягнутых вытворчых пасьпехаў, дзеля утрыманьня каторых патрэбна новая дружная аднадушная падтрымоўка ад усіх дзяржаўных і грамадзянскіх сілаў у справе пашырэньня і збыту данецкага вугля.

Прымаючы пад увагу, што за мінулыя годы пры значных недахватках мінеральнага апалу, паміж іншым данецкага вугля, ім з вялікім цяжарам шанцавала здавальняць прамысловасьць і транспарт і ня было блізка што ніякае магчымасьці ужываць яго дзеля патрэбаў камунальных прадпрыёмстваў і насельнікаў; у гэтыя ж часы ужываньне яго дзеля патрэбаў камунальных прадпрыёмстваў і насельнікаў з'яўляецца ня толькі магчымым але і дыхтуецца неаткладнаю дзяржаўнаю неабходнасьцьцю, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавілі:**

1. Параіць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублікаў прымусіць губэрскія выканаўчыя камітэты і адпаведаючыя ім органы памянёных рэспублікаў зрабіць крокі дзеля шырокага пашырэньня данецкага вугля сярод насельнасьці шляхам найбольшага скарочаньня ужытку дроў і іншага апалу.

2. Параіць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублікаў прымусіць народныя камісарыяты ўнутраных справаў выдаць цыркулярныя загады аддзелам камунальнае і мясцовае гаспадарак на кошт найбольшага ужываньня данецкага вугля вадасьветам і іншымі камунальнымі прадпрыёмствамі шляхам скарочаньня ужытку іншага апалу.

3. Параіць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублікаў аб зробленых дзеля выконаньня гэтае пастановы кроках і дасягненьнях штомесяц рабіць паведамленьня праз паперу Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублікаў.

4. Гэтая пастанова падлягае шырокаму агалошаньню праз ўсе савецкія, профэсыянальныя і коопэрацыйныя выдаваньні.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

16 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.

Агалошана у № 40 „Известій" ЦВК аюзу ССР за 17 лютага 1924 г.

## 41. Аб адмене абандэроліваньня пушак сярнічах вырабляемых на абшары Саюзу ССР.

У адмену пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР ад 3 ліпеня 1923 году аб тэрмінах выплаты акцызу за выбіраемыя сярнічковымі фабрыкамі з скарбніцаў народнага камісарыяту грашовых спраў бандэролі (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 64, арт. 630); Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Адмяніць абандэроліваньне пушак сярнічак, вырабляемых на обшары Саюзу ССР.

2. Устанавіць налічэньне акцызу на сярнічкі водлуг выпуску іх з фабрыкі ці базіснага складу.

3. Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, водлуг улагоджаньня з вышэйшым саветам народнай гаспадаркі Саюзу ССР, устанавіць парадак акцызнага учоту сярнічковае вытворчасьці, аплаты акцызам выпушчаемых фабрікамі сярнічак і самага выпуску іх з фабрыкі, а так сама тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы, з агалашэньнем яе у „Известиях", ЦВК Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзэ.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 41 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 19 лютага 1924 г.

## 42. Аб інстытуце У. І. Леніна.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Прызнаць знаходзячыйся у Маскве інстытут Ў. І. Леніна выключным дзяржаўным месцам дзеля захаваньня ўсіх рукапісаў Ўладзіміра Ільліча Ульянава (Леніна) і усіх арыгінальных дакумэнтаў, якія маюць напасрэдныя адносіны да яго чыннасьці (напр., матар'ялы аб ім быўшага жандармскага упраўленьня і інш.).

2. Прапанаваць саветам народных камісараў саюзных рэспублік абавязаць свае дзяржаўныя кніжныя палаты ці адпавядаючыя ім органы перадаваць інстытуту У. І. Леніна па аднаму экзэмпляру усіх паступаючых да іх выданьняў твораў Ў. І. Ульянова (Леніна), ўсіх друкаваных твораў, якія напісаны адумыслова аб Ў. І. Ульянаве (Леніне) ці утрымліваюць яго партрэты і інш. малюнкі а так сама кнігаў (часопісаў, лістовак, плакатаў і інш.) па сацыяльна-эканамічным і гісторычна-рэвалюцыйным пытаньням.

3. Прапанаваць саветам народных камісараў саюзных рэспублік абавязаць ўсе фотографіі, якія рабілі калі-небудзь зьнімкі Ў. І. Ульянова (Леніна) асобна ці у групах, здаць негатывы і плёнкі гэтых зьнімкаў у інстытут Ў. І. Леніна ці паказаць, куды гэтыя негатывы ямі былі здадзены. На інстытут Ў. І. Леніна ускласьці абавязак сабраць усе гэтыя негатывы і плёнкі, аб якіх яму будзе паведамлена.

4. Прапанаваць саветам народных камісараў саюзных рэспублік абавязаць ўсе кінопрадпрыёмствы да здачы істытуту У. І. Леніна усіх орыгіналаў фільмаў з вобразам У. І. Ульянава (Леніна).

5. Прапанаваць саветам народных камісараў саюзных рэспублік абавязаць ўсе друкарні, цынкографіі, фототыпіі, літографіі, выдавецтвы і інш. даць у інстытут У. І. Леніна по 3 экзэмпляры адбіткаў усіх, маючыхся у іх вобразаў (клішэ), партрэтаў, малюнкаў і г. п. Ў. І. Леніна і на далей прысылаць з усіх якія будуць рабіцца, клішэ па 3 экзэмпляры з паказаньнем, дзе яны былі зьмешчаны.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.

Агалошана у № 40 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 10 мотага 1924.

## 43. Аб выпуску 8% ўнутраней залатой пазыкі 1924 г.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Выпусьціць ўнутраную залатую пазыку на падставах, выкладзенных у наступных артыкулах.

2. Пазыка выпушчаецца на суму 100,000,000 руб. золатам, тэрмінам на 6 гадоў, дзесяцьцю сэрыямі па 10,000,000 руб. золатам кожная, у аблігацыях вартасьцю у 100 і у 1000 рублёў золатам.

3. Пазыка ўносіцца ў кнігу дзяржаўных пазыкаў пад назваю „Дзяржаўная 8% унутраная залатая пазыка 1924 году".

4. Па аблігацыям пазыкі налічаюцца проценты з разліку 8% (восем) гадавых у залатой валюце. Тэрміны плацяжоў процантаў назначаюцца па паўгодзьдзям 1 сакавіка і 1 верасьня кожнага году, пачынаючы з 1 верасьня 1924 году.

5. Выпускны курс аблігацыяў пазыкі назначаецца 96 за 100.

6. Аблігацыі пазыкі звальняюцца ад абкладаньня якімі б там ня было падаткамі і зборамі дзяржаўнымі і мясцовымі.

7. Аблігацыі з пазыкі прыймаюцца у залог па ўсім дзяржаўным падрадам і дастаўкам.

8. Пазыка выкупляецца у працягу 4 гадоў, пачынаючы 3 студзеня 1926 году, шляхам штогодных тыражаў пагашэньня у суме 25 000 000 рублёў золатам у год. Тэрміны тыраж ў пагашэньня. колькасьць падлягаючых пагашэньню у кожны тыраж аблігацыяў і парадак вытворчасьці тыражаў устанаўліваюцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР.

9. Ўсе разьлікі па займу з трымацелямі яго по выплаце процантаў і па пагашэньню робяцца па курсу залатога рубля на дзень разьліку.

10. Тэрмін дзеля прад'яўленьня да аплаты тэрміновых купонаў і вышаўшых у тыраж аблігацыяў устанаўліваецца трохгадовы з дня наступленьня адпаведнага тэрміну купону ці з дня тыражу пагашэньня, пасьля чаго трымацелі пазыкі трацяць права на адтрыманьне належачых сумаў ці якой-небудзь кампэнсацыі.

11. Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР даецца выпрацаваць і выдаць падрабязныя правілы папярэдняй перадплаты, парадку выплаты процантаў і вытворчасьці тыражаў пагашэньня пазыкі.

12. Аблігацыі пазыкі маюць вольны зварот нараўне з іншымі дзяржаўнымі і гарантыраванымі ўрадам процантнымі паперамі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманоў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 40 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 17 лютага 1924 г.

## 44. Аб падатковых льготах дзеля гандлю на харкаўскай (крэшчэнскай) і кіеўскае ярмарках у 1924 г.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Зволіць гандаль на харкаўскай (Крэшчэнскай) і кіеўскай ярмарках у 1924 г. ад дзяржаўнага прамысловага парадку, а так сама ад усякага роду мясцовых падаткаў і збораў.

Увага. Льготы па звальненьню ад параўнаўчага збору пашыраюцца толькі на зьдзелкі па куплі-продажы тавару, які знаходзіцца на ярмарцы.

**2.** Устанаўленыя у арт. 1 гэтае пастановы льготы не пашыраюцца на прадпрыёмствы, абслугоўваючыя ярмаркі які: кафэ, рэстораны, парыхмахерскія і г. п., якія абкладваюцца падаткамі і зборамі на агульных падставах.

**3.** Установы, прадпрыёмствы і асобы, якія адпраўляюць на ярмарку тавары, падлячаючыя абкладаньню акцызам, маюць права пералічаць належачыя акцызы на склады, знаходзячыяся на абшары ярмаркі, прычым акцыз выплачваецца поўнасьцю прывёзшымі іх установамі, прадпрыемствамі і асобамі не пазьней двухтыднёвага тэрміну з дня зачыненьня ярмаркі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 40 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 17 лютага 1924 г.

---

## 45. Аб з'іначаньні палажэньня аб прыбытковым падатку з дзяржаўных і коопэрацыйных прадпрыёмстваў і зьмешаных таварыстваў.

Дзеля з'іначаньня палажэньня аб прыбытковым падатку з дзяржаўных і коопэрацыйных прадпрыёмстваў і зьмешаных таварыстваў, зацьверджанага Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў 20 чэрвеня 1923 году (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 61, арт. 573) і пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 году аб з'іначаньні таго ж палажэньня (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 9, арт 275, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**А.** Артыкул 6 палажэньня выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„6“. Вылічэньне падатку з коопэратыўных організацыяў, апрача памянёных у арт. 7, ускладаецца на вучастковыя па прыбыткова-памаентнаму падатку камісіі (арт 3 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 21 сьнежня 1923 г. аб складзе падатковых камісіяў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 12, арт. 326), прычым па справам гэтага роду сябрамі ад плацельшчыкаў зьяўляюцца прадстаўнікі адпаведных коопэратыўных арганізацыяў па назначэньню мясцовага выканаўчага камітэту.

Разгляданьне скаргаў па разьвязкі вучастковых камісіяў ускладаецца на губэрскую (ці адпавядаючую ей) камісію па прыбыткова-памаентнаму падатку (арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 21 сьнежня 1923 году, Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 12, арт. 326), прычым у адносінах прадстаўніцтва ад плацельшчыкаў захоўваецца ўвага да арт. 7 гэтага палажэньня“.

**Б.** Артыкул 7 палажэньня выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„7“ Падатак з прадгледжаных арт. 1 дзяржаўных прадпрыёмстваў, зьмешаных таварыстваў, а так сама з цэнтральных і губэрскіх (ці адпавядаючых ім) коопэрацыйных аб'яднаньняў вылічаецца асобнай прыбыткова-падатковай камісіяў, знаходзячайся пры аддзеле грашовых справаў гэтае губэрні (ці адпавядаючай ей тэрыторыяльнай адзінкі), ў якой знаходзіцца кіраўніцтва прадпрыёмства.

Асобная прыбыткова-падатковая камісія складаецца пад старшынством загадчыка падатковай управай падлягаючага аддзелу грашовых справаў з прадстаўнікоў па аднаму ад мясцовага выканаўчага камітэту (ці яго прэзыдыуму, савету народнай гаспадаркі ці аддзелу мясцовае гаспадаркі, інспэктару грашовых справаў адпаведнага райёну і двух прадстаўнікоў ад плацельшчыкаў па назначэньню выканаўчага камітэту (гл. увагу да гэтага артыкулу). Разьвязкі асобнай камісіі могуць быць абжальбаваны у губэрскую (ці адпавядаючую ей) па прыбыткова-памаентнаму падатку камісію (арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССРад 21 сьнежня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 12, арт. 326), прычым па справам гэтага роду прадстаўнікі ад плацельшчыкаў назначаюцца парадкам, паказаным у ўвазе да гэтага артыкулу.

Увагр. Прадстаўнікі ад плацельшчыкаў назначаюцца выканаўчым камітэтам: адзін—з ліку кандыдатаў, пададзеных дзяржаўнымі органамі і зьмешанымі таварыствамі, другі—з ліку кандыдатаў, пададзеных коопэратыўнымі арганізацыямі.

**В.** Артыкул 8 палажэньня выкласьці ў наступнай рэдакцыі:

„8“. Падатак вылічаецца на падставе належна праверaных і папраўленым органамі, вылічаючымі падатак, справаздачаў за папярэдні опэрацыйны год, якія кіраўніцтва кожнага прадпрыемства, прадгледжанага арт. 1, павінна падаць у камісію, вылічаючую падатак (арт. арт. 6 і 7), не пазьней 3 месяцаў з дня закончаньня опэрацыйнага году.

Увага 1. У асобных выпадках народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, а так сама народным камісарыятам грашовых справаў саюзных рэспублік, водлуг належнасьці, даецца права працягненьня тэрмінаў падачы справаздачаў як для асобных прадпрыёмстваў, гэтак і для галінаў прамысловасьці, але ня больш 6 месяцаў з дня закончаньня опэрацыйнага году.

Увага 2. Прадпрыёмствы, не падаўшыя справаздачаў у устаноўленыя, згодна гэтага артыкулу і увагі да яго, тэрміны, абкладваюцца падаткам на падставе тых довадаў аб іх прыбытку, якімі ўладае камісія“.

**Г.** Артыкул 9 палажэньня—выключыць.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 41 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 лютага 1924 г.

**46.** **Аб зьверхурочнай працы для некаторых катэгорыяў працаўнікоў дзяржаўных таварных складаў Дзяржскладу вышэйшага савету народнае гаспадаркі.**

Прымаючы пад увагу асобныя умовы працы на дзяржаўных таварных складах вышэйшага савету народнае гаспадаркі, Цэнтральны Выканаўчы камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Дзеля вынятку з арт. 106 кодэксу законаў аб працы дапусьціць часова на складах Дзяржскладу вышэйшага савету народнае гаспадаркі для ніжэпералічаных катэгорыяў працаўнікоў вытворчасьць зьверхурочнай працы велічынёю:

1. Для загадчыкаў складамі ці іх намесьнікаў, кантралёраў, кладаўшчыкоў, у колькасьці ня больш 20 гадзін у месяц на кожнага і
2. для рабочых пры складах і возчыкаў—у колькасьці ня больш 15 гадзін у месяц на кожнага.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква — Крэмль.

Аглошана № 41 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 лютага 1923 г.

---

**47.** **Аб прадажы чыстага сьпірту па ніжэйшай стаўцы акцызу для вэтэрынарных патрэбаў.**

У дадатак да пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 30 траўня 1934 г. аб зіначаньні парадку продажы сьпірту па зьніжанай стаўцы акцызу (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 51, арт. 505), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дазволіць прадажу сьпірту па ніжэйшай стаўцы акцызу без папярэдняй дэнатурацыі, так сама для вэтэрынарных патрэбаў, не дапушчаючых ужываньня дэнатурыванага сьпірту.
2. Сьпіс установаў, якім павінен адпушчацца сьпірт на падставе гэтае пастановы, устанаўліваецца водлуг згоды народнага камісарыяту грашовых справаў вышэйшага савету народнае гаспадаркі і народнага камісарыяту па ваенным і марскіх справам Саюзу ССР і народных камісарыятаў земляробства адпаведных рэспублік, водлуг належнасьці.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Аглошана у № 41 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 лютага 1924 г.

---

**48.** **Аб акцызе са сьвечак.**

Дзеля з'іначаньня дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 21 красавіка 1922 году аб акцызу з васкавых і озокерытавых сьвечак (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 30, арт. 354), арт. 19, падзелу 1 дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 19 красавіка 1923 году аб устанаўленьні велічыні акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 33, арт. 362) і арт. 21 дадатку да пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 20 жніўня 1923 году аб выказваньню цьвёрдых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Арцызу, устаноўленаму памянёнымі вышэй пастановамі, паўлягаюць сьвечкі, як прывазімыя з закардону, гэтак і выраблямыя на абшары Саюзу ССР, утрымліваючыя ў сабе воск пахаджэньня ад жывёлаў ці расьлінаў, а так сама озокерыт, цэрэзін і церазіт, незалежна ад пахаджэньня гэтых матар'ялаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Аглошана у № 40 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 лютага 1924 г.

---

**49.** **Аб звальненьні ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку на 1923—1924 г. плошчаў засеваў клэшчавіны ў Туркестанскай Социялістычнай Савецкай Рэспубліцы.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Зволіць ад абкладаньня адзіным сельска-гаспадарчым падаткам на 1923—1924 г. плошчы засеваў клешчавіны ў Туркестанскай Социялістычнай Савецкае Рэспубліцы.
2. Прапанаваць савету народных камісараў Туркестанскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі выдаць у 2-тыднёвы тэрмін інструкцыю аб парадку ужываньня гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Аглошана у № 41 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР 19 лютага 1924 г.

---

**50.** **Аб дакладах цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік і выканаўчым камітэтам саветаў пад'уладнымі адзеламі аб мерах, якія прыняты імі да паміжнароднага дня працоўніц.**

*Цыркулярна.*

Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам:

Цэнтральным Выканаучым Камітэтам: Расійскай Социялістычнай Фэдэратыунай Савецкай Рэспублікі, Украінскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларускай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі і Закаукаэскай Социялістычнай Фэдэратычнай Савецкай Рэспублікі.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР даручае цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік прапанаваць ўсім выканаўчым камі-

тэтам саветаў заслухаць на сваіх бліжэйшых пасяджэньнях даклады пад'уладных аддзелаў і ўстановаў аб мерах, якія прыняты імі ў мінулым, 1923 г. да паміжнароднага дня працоўніц, дзеля выкананьня заданьняў, паказаных у пастанове Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту („Известия" УЦВК ад 16 лютага 1923 г., №35), і намеціць тыя неабходныя практычныя задачы якія павінны быць выкананы да гэтага дню ў гэтым годзе.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
15 лютага 1924г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 41 „Известий" ЦВК Саюза ССР ад 19 лютага 1924 г.

---

**51.** **Статут Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку Саюзу ССР.**

Зацьверджваецца.
Старшыня ЦВК Саюзу ССР **Н. Нарыманау.**
Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР **А. Цюрупа.**
Сэкратар ЦВК Саюзу ССР **А. Енукідзе.**
15 лютага 1923 г. Масква—Крэмль.

### I. Агульныя рысы.

**1.** З метаю, каб дапамагчы адбудаваньню і росквіту сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці Саюзу ССР шляхам утварэньня адзінага ўкладу сельска-гаспадарчае пазычкі засноўваюцца на падставах, выкладзеных у гэтым статуту, акцыянэрныя таварыствы пад наіменьнем „Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Банк Саюзу ССР".

**Увага.** Установцамі банку з'яўляюцца: народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, народные камісарыяты земляробства РСФСР, УССР, БССР, прадстаўнік наркамземаў рэспублікаў Закаўказскае фэдэрацыі і ўсерасійскі хаўрус сельска-гаспадарчае коопэрацыі.

**2.** Месца, дзе знаходзіцца кіраўніцтва банку—места Масква.

**3.** Для ажыцьцяўленьня сваіх мэтаў банк ставіць сабе абавязкі:

а) вышукваць і прыцягваць да сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчае прамысловасьці Саюзу ССР новыя крыніцы сродкаў;

б) аб'яднаць і плянамерна скарыстоўваць дзяржаўныя сродкі, прызначаныя для выдачы пазычкаў сельскім гаспадаркам і сельска-гаспадарчай прамысловасьці;

в) здавальняць сродкамі грамадзянскія і коопэрацыйныя ўстановы і прадпрыёмствы, працуючыя ў галіне сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчае прамысловасьці, на ўмовах доўгатэрміновых і кароткатэрміновых пазычкаў;

г) разьвіваць і умацоўваць сельска-гаспадарчую пазычку шляхам дапамогі разьвіцьцю на абшары Саюзу ССР сеці установаў дробнае сельска-гаспадарчае пазычкі.

**4.** Чыннасьць банку пашыраецца на ўвесь абшар Саюзу ССР.

**5.** Банк ажыцьцяўляе выдачу пазычкаў установам і прадпрыёмствам, памянёным у п. п. „б" і „в" арт. 2, праз сельска-гаспадарчыя банкі хаўрусных рэспублікаў, а гэтак-жа таварыстваў сельска-гаспадарчае пазычкі, пры чым банкі хаўрусных рэспублікаў далагоджваюць свае пляны з Цэнтральным Сельска-Гаспадарчым Банкам, як у сэнсе аб'ёму і галоўных кірункаў сельска-гаспадарчае пазычкі, гэтак і па асобным апэрацыям, якія выдае Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Банк. Апошняму даецца права даглядаць, як скарыстоўваецца дазволеная пазычка. Апэрацыі агульна-хаўруснае вагі ўтвараюцца Цэнтральным Сельска-Гаспадарчым Банкам непасрэдна.

**6.** Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Банк звальняецца ад дзяржаўных памаентна-прыбытковага і прамысловага падаткаў і гэрбавага збору.

**7.** Банк карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнае асобы і мае пячатку.

### II. Капіталы банку.

**8.** Капіталы банку складаюцца з: а) асноўнага капіталу, б) запаснага капіталу і в) адмысловых капіталаў.

#### А. Асноўны капітал.

**9.** Асноўны капітал вызначаецца ў 40 (сорак) мільёнаў рублёў золатам. Гэты капітал утвараецца праз выхад 400.000 (чатырохсот тысячаў) акцыяў па 100 (сто) залатых рублёў кожная. Ня меньш 51% выпушчаемых акцыяў размяркоўваецца паміж установкамі і запрошанымі імі да ўдзелу дзяржаўнымі ўстановамі.

**Увага.** Кіраўніцтву банку даецца магчымасьць браць дзеля аплаты акцыяў на суму ня больш 50% іх кошту таварамі, на падставах, устанаўліваемых згодна з акцыянерамі.

**10.** Банк адчыняе сваю дзейнасьць пасьля таго, як па акцыям перша-пачатковага выхаду будзе ўнесена ня меньш 15 (пятнаццаці) мільёнаў рублёў золатам; падачы ў лік гэтае сумы кладуцца ў дзяржаўны банк. Колькасьць і тэрміны іншых, да поўнае выплаты агульнае цаны акцыяў, падачаў назначаецца кіраўніцтвам, з абвесткаю аб тым, праз публікацыю, ня пазьней, чым за месяц да гэтых тэрмінаў. Пры першай падачы водлуг акцыяў, установцам выдаюцца часовыя пасьведчаньні, на якіх кіраўніцтвам робяцца паметкі аб паступаючых падачых. Пасьля выплаты апошняе падачы і прыгатаваньня акцыяў, часовыя пасьведчаньні замяняюцца акцыямі.

**11.** Згодна пастановаў агульнага сходу акцыянэраў, з дазволу народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, асноўны капітал пазьней можа быць павялічан праз выпуск новых акцыяў тае ж нарыцацельнай вартасьці.

**Увага.** Цана, у якой выходзяць акцыі, вызначаная агульным сходам акцыянэраў і зацьверджаная народным камысарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, ня можа быць ніжэй нарыцаценьнай вартасьці акцыяў з дадаткам да яе прэзэнту, гэткага самага на велічыні, як запасны капітал банку, водлуг апошняга балансу, падзелянага на лік раней выйшаўшых акцыяў.

12 Пры новых выхадах акцыяў ня меньш 51% усіх выходзячых акцыяў павінна размяркоўвацца сярод дзяржаўных органаў, пры чым ранейшыя акцыянэры маюць пераважнае права каб набыць новыя акцыі прапорцыянальна ліку належачых ім акцыяў. Агульныя сходы акцыянэраў, вызначаючы новыя выхады акцыяў для павялічэньня асноўнона капіталу банку, вызначаюць пры гэтым кожны раз лік выходзячых акцыяў; спосаб разьвёрсткі іх паміж тымі з акцыянэраў банку, якія заявяць аб жаданьні іх набыць, а гэтак сама умовы наконт падпіскі на неразабраныя акцыі з наказаньнем велічыні і тэрмінаў падачы грошаў. Гэтыя тэрміны, аднак, не павінны раскладацца на пэрыад часу болей аднаго году.

**13.** Акцыі банку могуць быць імянымі або на падаўца. Акцыі, належачыя дзяржаўным органам, павінны быць прызначаны на іх імя. Акцыі выходзяць пад нумарам і подпісам трох сяброў кіраўніцтва, бугальтэра і скарбніка, з пячаткаю банку.

**14.** Уладаром акцыяў на падаўца прызнаецца заўсёды той, хто трымае іх. Перадача акцыяў, прызначаных на імя, робіцца праз кіраўніцтва банку з адпаведнымі адметкамі на акцыях і ў кнігах банку, з тым, аднак, што абгавораная артыкуламі 9 і 12 залежнасьць колькасьці акцыяў, належачых дзяржаўным органам і іншым трымацелям, ня можа быць зьменена.

**Б. Запасны капітал,**

**15.** Запасны капітал прызначаецца для пакрыцьця стратаў, якія могуць быць пры апэрацыях банку, і складаецца з штогодных адлічэньняў ад прыбыткаў, згодна арт. 84 гэтага статуту, і працэнтаў на іх. Адлічэньня гэтыя робяцца да таго часу, пакуль запасны капітал ня дойдзе да паловы асноўнага капіталу.

**16.** У разе зьніжэньня запаснага капіталу, праз тое, што на яго будуць аднесены страты ад опэрацыяў, ён ізноў папаўняецца паказаным у арт. 15 парадкам.

**17.** Запасны капітал падаецца ў дзяржаўны банк дзеля захаваньня ў каштоўнасьцях, якія маюць моцны курс.

**В. Адмысловыя капіталы.**

**18.** Для здавальненьня сродкамі адмысловых галінаў сельскае гаспадаркі і выкананьня іншых адмысловых задачаў, водлуг пастановаў агульных сходаў акцыянэраў, могуць складвацца адмысловыя капіталы. Адмысловыя капіталы ўкладваюцца ад: а) адлічэньняў з прыбыткаў банку; б) выпуску аблігацыйных пазыкаў; в) прыняцьця на ўмоўных пачатках укладаў з адмысловым назначэньнем і г) атрыманьня асыгнаваных дзяржаваю ў бюджэтным парадку сумаў.

**19.** Для выдачы доўгатэрміновых пазычкаў водлуг пастановаў агульнага сходу акцыянэраў, адлучаецца частка асноўнага капіталу, складаючая ня меньш паловы яго.

## III. Апэрацыі банку.

**А. Уклады і пазычкі.**

**20.** Грашовыя ўклады прымаюцца банкам: а) на бягучы рахунак, б) на вызначаныя тэрміны (тэрміновыя ўклады), в) тэрмінам водлуг патрабаваньняў (уклады без тэрміну), г) умоўныя.

**21.** Уклады прымаюцца без абмежаваньня сумаў і выдаюцца так сама бязспрэчна і без абмежаваньня сумы.

**22.** Рахункі водлуг укладаў захоўваюцца патайна, і спраўкі аб іх даюцца толькі самім укладчыкам або судзебным і сьледчым органам.

Не спаўненьне адмыністрацыяй і супрацоўнікамі банку патаўнасьці рахункаў водлуг паложаных укладаў караецца карачынным парадкам.

**23.** Зьначаньне велічыні процантаў і іншых умоваў па прынятым укладам можа быць зроблена адносна бягучых рахункаў і укладаў бязтэрміновых ня інакш, як з папярэдняе перасьцярогі, а адносна тэрміновых укладаў—толькі як пройдзе тэрмін укладаў.

**24.** Дакумэнты, якія выдае банк на бязтэрміновыя уклады, могуць быць толькі на імя, дакумэнты ж на тэрміновыя уклады—як на імя, гэтак і на падаўца.

**25.** Дакумэнты банка на тэрміновыя і бязтэрміновыя уклады дазваляецца прымаць у заклад пры ўмовах з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыёмствамі на ўмовах, вызначаемых народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР.

**26.** Сумы, унесеныя ўкладамі і на бягучы рахунак, ня могуць падпадаць пад канфіскацыю або сэквэстр інакш, як толькі згодна пастановаў судовых установаў.

Банк выпушчае аблігацыйныя пазыкі—кожны раз з асобнага дазволу народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР велічынёю і на ўмовах, устанаўляемых для кожнае пазыкі асобна.

**28.** Агульны лік усіх прынятых банкам на сябе абавязацельстваў ня можа перавышваць больш, чым у дзесяць разоў уласныя капіталы банку: аснаўны і запасны

**Б. Пазыкі.**

**29.** Пазыкі выдаюцца банкам на мерапрыёмствы, зьвязаныя з умацаваньнем, адбудаваньнем і разьвіцьцём вытворчае дзейнасьці сельскае гаспадаркі і с.-г. прамысловасьці, як:

а) паляпшэньне тэхнікі сельскае гаспадаркі;

б) пашырэньне засеваў і вытварэньне ўсялякіх зямельных паляпшэньняў;

в) утварэньне і паляпшэньне размаітых адмысловых галінаў сельскае гаспадаркі;

г) пабудаваньне закладаў для пераапрацоўкі здабываемых ад сельскае гаспадаркі прадуктаў;

д) пераход да палепшаных спосабаў гаспадараньня, патрабуючых павялічэньня зваротных сродкаў;

е) стварэньне найбольш спрыяючых умоваў збыту для здабываючых прадукты сельскае гаспадаркі;

ж) пабудаваньне прадпрыёмстваў, дапамагаючых сельскай гаспадарцы збываць яе прадукты;

з) нажываньне насеньня, жывога і нежывога інвэнтару і іншых рэчаў, неабходных у сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

**30.** Пазычкі выдаюцца кароткатэрміновыя—тэрмінам да аднаго году і доўгатэрміновыя—тэрмінам да пяцёх гадоў.

**31.** Доўгатэрміновыя пазычкі выдаюцца велічынёю ня звыш 75% кошту налічаных па каштарысу затратаў, пры абавязковай умове рэнтабэльнасьці апошніх.

**32.** Доўгатэрміновыя пазычкі выдаюцца дзеля дакладна вызначаных мэтаў і выключна з капіталаў, скадзе-

ных згодна арт. 18 і 19 гэтага статуту. У выпадку траты адтрыманае пазычкі не на тое, на што яна выдана, банк зачыняе пазычку і, водлуг пастановаў кіраўніцтва, спаганяе да тэрміну.

**33.** Доўгатэрміновыя пазычкі дзеля асноўных капіталаў коопэрацыйных сельска-гаспадарчых пазычковых аб'яднаньняў выдаюцца толькі пры тэй ўмове, калі будзе ў іх статутах адмоўлена аб дадатковай адпаведнасьці іх сяброў або пад матар'яльнае забясьпечаньне, даваемае гэтымі коопэрацыўнымі сельска-гаспадарчымі аб'яднаньнямі.

**34.** Кароткатэрміновая пазычка адчыняецца адпаведна з сапраўднымі патрэбамі ў ёй гаспадаркі і з прыбыткамі апошняе.

**35.** Пазычкі выдаюцца: а) сельска-гаспадарчым банкам хаўрусных рэспублік, б) таварыствам сельска-гаспадарчае пазыкі ў межах пляпаў, дагоджаных да сельска-гаспадарчых банкаў хаўрусных рэспублік, в) іншым сельска-гаспадарчым арганізацыям і прадрыёмствам непасрэдна, каля пазычка мае агульна-хаўрусную значнасьць, і праз органы, паказаные ў п.п. „а“ і „б“ гэтага артыкулу, ў іншых выпадках.

**36.** Сельска-гаспадарчыя банкі хаўрусных рэспублік і таварыствы сельска-гаспадарчае пазыкі, а так сама і іншыя установы атрымаўшыя пазычкі, з Цэнтральнага сельска-гаспадарчага банку Саюзу ССР, павінны перад апошняй справаздачай аб становішчы сваіх сродкаў і зваротаў, а гэтак-жа аб скарыстаньні атрыманае пазыкі водлуг таго, дзеля чаго яна прызначана. Незалежна ад гэтага, іх рахункі і кнігі аб выдачы пазыкаў за кошт атрыманых ад банку пасрэдніцкіх пазыкаў павінны паказвацца для агляданьняў асобам, упаўнаважаным на тое банкам.

**37.** Банк выдае пазыкі пад вэксаль, інш. абавязацельствы аб доўгу, пад соло-вэксаля, запяспечаныя закладам каштоўных бумагаў, тавараў і рознае маемасьці, не складаючай неабходнай належнасьці сельскае гаспадаркі або прадпрыёмства, закладам будучага ураджаю або каб хто пэўны паручыўся.

**38.** Банк выдае кораткатэрміновыя пазычкі, а гэтак сама адчыняе пазыкі ў форме адмысловых і контокорэнтных рахункаў:

а) пад заклад ня лёгка псуючыхся тавараў сельска-гаспадарчага значаньня і дакумэнтаў на іх (коносамэнтаў, пасьведчаньняў таварных складаў, варантаў, падвойнікаў, накладных квіткоў транспартных кантораў і параходных прадпрыемстваў), выдаецца ня больш $^3/_4$ кошту тавараў і з тым, каб яны былі застрахованы ня меньш, чым на $10\%$ вышэй пазычкі і на тэрмін, у апошнім выпадку, на адзін месяц даўжэй тэрміну закладу, і каб палісы былі перададзены банку.

Увага. Прынятыя ў заклад тавары павінны быць зложаны ў добрым бяспечным, водлуг паглядаў кіраўніцтва, памяшканьні і за карыстаньне памяшканьнем было заплачана, у кожным разе, на адзін месяц даўжэй таго тэрміну, на які закладзен тавар. У выключных выпадках, з дазволу кіраўніцтва, закладзены тавар можа быць пакінут на адпаведнае захаваньне таго, хто яго закладвае, пры тэй умове, што ён дасьць абавязацельства на паперы, у якіх павінна быць дакладна вызначана колькасьць і якасьць тавараў, дзе яны захованы і якую адпаведнасьць за тое, калі тавары ня будуць цэлы, дае ён

б) пад заклад каштоўных папераў, згодна пералічэньняў, якія зацьвердзіў народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР, ня больш $75\%$ іх курсавое вартасьці.

**39.** Тавары і каштоўнасьці, з'яўляючыяся забясьпекаю адчыненых банкам крэдытаў і дадзеных ім пазык ня могуць падпадаць пад сэквэстр або заневоленьне ні дзеля прыватных ні дзеля дзяржаўных спагнаньняў і ня могуць залічвацца ў агульны лік маемасьці пазычальніка для здавальненьня тых, хто яму пазычаў аж да пакрыцьця усяго доўгу банку з процантамі, камісіяй і г. д., пры чым патрэбаваньні банку здавальняюцца з закладзенае маемасьці, ня гледзячы на арт. 101 грамадзянскага кодэксу РСФСР і адпаведных артыкулаў грамадзянскіх кодэксаў іншых хаўрусных рэспублік, пераважна перад усімі патрэбаваньнямі іншых, хто яму пазычаў, ці то будуць дзяржаўныя ўстановы, ці прыватныя, выключаючы патрэбаваньня аб заробтках рабочых і служачых.

**40.** Банк мае права закладваць належачых да яго каштоўнасьцяў і, водлуг згоды з кліентамі, перазакладваць прыняўшы ў заклад ад іх тавары і каштоўнасьці з гэткай умовай, каб адтрыманыя ад перазакладу сумы не перавышвалі дадзеных банкам кліенту пазыкаў.

**41.** Пры няпадачы ў тэрмін плацяжоў водлуг пазыкі, а гэтак сама ў разе неспаўненьня правілаў або умоваў водлуг адчыненага паверу, банк мае права спаганяць з пазычальніка ўсю суму доўгу праз рэалізацыю водлуг сваіх поглядаў маемасьці, складаючае забясьпеку адчыненага паверу, і мае права павярнуць спагнаньне па закону на ўсякую іншую маемасьць пазычальніка, дзе б яна ні знаходзілася.

**42.** Водлуг іскаў банку, вынікаючых з яго апэрацыяў, ня гледзячы на ўвагу да арт. 82 і арт. 186 грамадзянскага працэсуальнага кодэксу РСФСР і адпаведных законаў другіх хаўрусных рэспублік, дапушчаецца забясьпека іску, а гэтак жа неадкладнае выконаньне пастановы суду і у тых выпадках, калі адказнымі з'яўляюцца дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы.

**43.** Вымаганьні банку, заснованыя на ўмовах і абавязацельствах, зробленых або выданых па ўкладным, пазычковым і камісіёным апэрацыям банку, развязваюцца ў парадку выданьня судовых загадаў, пры чым памянёны парадак, ня гледзячы на арт. 211 грамадзянскага працэсуальнага кодэксу РСФСР і адпавядаючых яму законаў другіх хаўрусных рэспублік, мае моц і ў тых выпадках, калі вымаганьні зьвернуты да дзяржаўных установаў і прадпрыёмстваў.

### В. Дысконт вэксалёў і іншых абавязацельстваў.

**44.** Банку даецца права рабіць дысконт вэксалёў і іншых тэрміновых абавязацельстваў, па якіх у момант дысконту застаецца да тэрміну выплаты ня звыш 12 месяцаў, а гэтак-жа перадыскантаваньне дыскантаваных вэксалёў і абавязацельстваў. Вэксалі, якія прымаюцца дзеля дысконту, павінны быць забясьпечаны ня меньш, чым двума пэўнымі падпісамі.

### Г. Камісіёные апэрацыі.

**45.** Банк выдае і аплачвае пераводы і акрэдытывы за кошт трэцьціх асобаў і установаў з тым, каб гэтыя выплаты былі першапачаткова забясьпечаны на ўсю

суму або грашамі, якія лічацца на бягучым рахунку ў банку, або закладам каштоўнасьцяў і тавараў, пад якія выдаюцца банкам пазычкі, адчыняе акрэдытывы пад дакументы на адасланыя тавары, з атрыманьнем наўперад пакрыцьця ўсяго або часткаю і правам паперу на астатнюю частку каштоўнасьці на умовах, абгавораных у арт. 38, акцэтуе і выдае пераводныя вэксалі, таварныя абавязацельствы і усялякія іншыя дакумэнты і каштоўнасьці.

### Д. Гандлева-пасрэдніцкія апэрацыі.

**46.** Банк купляе і прадае па даручэньню:

а) знаходзячыяся ў вольным звароце прадукты і сродкі сельска-гаспадарчае вытворчасьці,

б) каштоўныя паперы, пры чым апошніх гэтак сама і за ўласны кошт.

**47.** Банк можа прымаць удзел як устаноўчы і пайшчык у сельска-гаспадарчых і пазычковых грамадах, таварыствах і прадпрыемствах з тэй умовай, каб выдаткі і адпаведнасьць на гэтыя справы ня перавышвалі межаў, установленых агульным сходам акцыянэраў банку.

**48.** Доўгатэрміновая арэнда будынкаў, складаў і памяшканьняў, а гэтак-жа будоўля новых пабудовак, згодна істнуючым законам, дазваляецца банку толькі для сваіх патрэбаў, іменна памяшканьня для кіраўніцтва і для складаў, а гэтак-жа для здавальненьня служачых банку жылымі памяшканьнямі.

**49.** Банку даецца права даваць гарантыі, на падставах асобных умоваў, прыцягваемым да сельскае гаспадаркі капіталам як нутранага, гэтак і замежнага паходжаньня.

**50.** Банку даецца права рабіць прад'угаданыя гэтым статутам апэрацыі або непасрэдна або праз пасрэдніцтва істнуючых ужо банкаў, на падставе асобнае ўтвараемае паміж імі згоды.

## IV. Кіраваньне справамі банку.

**51.** Кіраваньне справамі банку ўскладаецца на: а) агульны сход акцыянэраў, б) кіраўніцтва, в) раду і г) рэвізійную камісію.

### А. Агульны сход.

**52.** Вышэйшым органам дзеля кіраваньня справамі банку з'яўляецца агульна сход акцыянэраў. Агульныя сходы бываюць звычайныя і надзвычайныя. Першыя зьбіраюцца штогод, ня пазьней лютага. Надзвычайныя назначаюцца кіраўніцтвам банку водлуг уласнага пагляду, згодна вымаганьня, праз паперу рады або рэвізійнае камісіі або згодна заявы праз паперу акцыянэраў, разам ўладаючых ня меньш аднае дваццатае часткі ўсіх акцыяў.

Агульны сход павінен быць склікан кіраўніцтвам ня пазьней як праз два тыдні ад того часу, як атрыманы праз паперу памянёныя вымаганьні або заявы.

**53.** Усе асобы, ўладаючыя акцыямі банку, маюць права прысутнічаць на агульным сходзе. Кожная акцыя мае права на адзін голас

**54.** Для таго, каб здабыць права прымаць удзел у агульным сходзе, ўладара акцыяў на падаўца павінны падаць іх кіраўніцтву для рэгістрацыі ня пазьней, чым за тыдзень да назначанага дню сходу.

Ад уладараў акцыяў на імя падачы іх не патрабуецца, але дапушчаюцца на сход толькі тыя з іх, на імя якіх перавод акцыяў у кнігах банку зроблен не пазьней, чым за тыдзень да сходу.

**55.** Скліканьне на агульны сход робіць кіраўніцтва праз агалошаньне ў газэтах „Известія ЦИК Союза ССР“ і Экономическая Жизнь“ не пазьней, як за дватыдні да назначанага сходу, з паказаньнем рэчаў, прапануемых да разгляданьня на агульным сходзе.

**56.** Агульны сход лічыцца законным калі на ім прысутнічаюць самі або праз даручаных уладара не меньш $^1/_3$ ўсіх вышаўшых акцыяў. У адваротных выпадках склікаецца праз асобнае агалошаньне другі сход, які назначаецца не пазьней месяца пасьля першага. Гэты другі сход прызнаецца сапраўдным, колькі-б ні з'явілася акцыянэраў, але разглядаць гэткі сход можа толькі тыя справы, якія назначаны да абгавараньня на першым сходзе, які не адбыўся; для разьгляданьня пытаньняў аб з'іначаньні статуту, павялічэньні або зьніжэньні асноўнага капіталу, спыненьні і зьліквідаваньні справаў банку, выпуску аблігацыйнай пазыкі— на другім сходзе павінны прысутнічаць акцыянэры, складаючыя не меньш $^1/_3$ асноўнага капіталу.

**57.** На агульным сходзе старшынёю абіраецца адзін з акцыянэраў кожны раз па асобнаму выбару, які учыняецца пры адчыненьні сходу да начала працы. Агульны сход адчыняецца старшынёю рады або асобаю, якая замяняе яго.

Увага. Старшынёю сходу ня можа быць абабраны сябра кіраўніцтва банку.

**58.** Пастановы агульнага сходу прымаюцца простай большасьцю галасоў. У пытаньнях аб пераіначаньні статуту банку, аб павялічэньні асноўнага капіталу, выпуску аблігацыйных пазыкаў і зьліквідаваньня банку патрэбна большасьць не меньш $^2/_3$ прысутнічаючых галасоў. Для разгляданьня гэтакіх пытаньняў патрэбна прысутнасьць на сходзе самых або па даручэньню акцыянэраў, ўладаючых разам ня меньш, як паловаю ўсіх акцыяў банку.

**59.** Выключна ведаму і разгляданьню агульнага сходу падлягаюць;

а) абіраньне старшыні і сяброў кіраўніцтва, сяброў рады і рэвізійнае камісіі і кандыдатаў да іх;

б) вызначаньне пэнсіі сябрам кіраўніцтва, рады і рэвізійнай камісіі;

в) канчатковае зацьверджаньне гадовых справаздачаў і балансаў;

г) зацьверджаньне пляна дзейнасьці на опэрацыйны год;

д) пастановы аб пабудаваньні новых-пабудовак для патрэбаў банку;

е) пастановы аб пераіначаньні і дапаўненьні статуту;

ж) пастановы аб павялічэньні асноўнага капіталу банку;

з) разьмяркаваньне чыстага прыбытку за мінулы год;

и) зьніманьне з запаснага капіталу на пакрыцьце стратаў;

к) пастановы аб вызначэньні часткі асноўнага капіталу дзеля доўгатэрміновых пазыкаў;
л) пастановы аб учыненьні адмысловых капіталаў;
м) пастановы аб выпуску аблігацыйных пазыкаў и
н) пастановы аб зачыненьні банку і зьліквідаваньні яго.

Увага. Усе выбары на агульным сходзе робяцца гэтак, як устанаўлена агульным сходам.

### Б. Кіраўніцтва.

**60.** Кіраўніцтва банку складаецца з старшыні і чатырох сяброў, якія абіраюцца агульным сходам як з акцыянэраў, гэтак і з чужых асобаў.

**61.** Для замены сяброў кіраўніцтва, выступіўшых да канца тэрміну, на які яны абабраны або часова страціўшых магчымасьці выконваць свае абавязкі, абіраюцца агульным сходам акцыянэраў тры кандыдаты. Кандыдат, які заступіў замест сябра кіраўніцтва, спаўняе яго абавязкі да канца тэрміну, на які быў абабраны выступіўшы сябра кіраўніцтва, але, ў кожным разе, не далей тэрміну, на які быў абабраны кандыдат. Кандыдаты, ў час спаўненьня абавязкаў сябракіраўніцтва, карыстаюцца ўсімі правамі, як належыць сябру кіраўніцтва.

**62.** Сябры кіраўніцтва і кандыдаты абіраюцца на тры гады; ў працягу першых двух гадоў выступаюць штогод двое сяброў кіраўніцтва і адзін кандыдат па жэрабю, а затым штогод выступаюць сябры кіраўніцтва і кандыдаты, якія прабылі на гэтай пасадзе тры гады. Выступіўшыя могуць быць ізноў абабраны.

**63.** Пасьля утварэньня кіраўніцтва, яно абірае з свайго складу намесьніка старшыні.

**64.** Кіраўніцтва зьбіраецца водлуг патрэбы, але не радзей аднаго разу ў тыдзень. Для сапраўднасьці пастановаў кіраўніцтва патрэбна прысутнасьць ня меньш трох сяброў. Пастановы прымаюцца па простай большасьці галасоў. Калі галасы разаб'юцца пароўну, голас старшыні перацягвае.

**65.** На абавязку кіраўніцтва ляжыць:
а) пісаньне акцыянэрнае кнігі;
б) складаньне інструкцыяў і правілаў па ўсім апэрацыям банку і падача іх на зацьверджаньне рады;
в) адчыненьне паверу і выдача пазыкаў;
г) вызначэньне велічыні процантаў, камісіяў і інш. платы ў карысьць банку, а гэтак-жа вызначэньне велічыні процантаў, якія плаціць банк;
д) абабраньне корэспадэнтаў і комісіянэраў банку;
е) устанаўленьне ўсяго свайго парадку работы, парадку дзелаводзтва, бухгальтэрыі і справаздачаў банку;
ж) наём і звальненьне служачых, назначэньне ім утрыманьня, запрашэньне даверaных асобаў і выдача ім даручэньняў;
з) прадстаўніцтва ад імя банку ў судох і іншых установах;
и) заключэньне ўмоваў і прыманьне абавязацельстваў па справам банку;
к) складаньне каштарысаў прыбыткаў і выдаткаў і гадовае справаздачы банку;
л) складаньне намераў аб пераіначаньні статуту банку і падача іх ураду;
м) загадваньне усімі справамі і капіталамі банку, на дакладных падставах гэтага статуту.

**66.** Сябры кіраўніцтва у асобку могуць выступаць ад імя банку толькі па асобным упаўнаважаньням кіраўніцтва.

Увага. Даверанасьці з гэткімі упаўнаважаньнямі выдаюцца абавязкова з подпісам трох сяброў кіраўніцтва.

**67.** Сябры кіраўніцтва не адказны сваёю ўласнаю маемасьцю за абавязацельствы банку. За незаконную дзейнасьць і за зробленую ім шкоду банку, сябры кіраўніцтва адпаведны сваёю маемасьцю па закону.

### В. Савет.

**68.** Рада банку складаецца з 11 сяброў, абіраемых з акцыянэраў на тры гады. У працягу першых двух гадоў выступаюць штогод тры сябра рады па жэрабю, а затым штогод—прабыўшыя на гэтай пасадзе тры гады. Выступіўшыя могуць быць ізноў абабраны.

**69.** Сябры рады абіраюць з свайго складу штогод старшыню і намесьніка старшыні.

**70.** Пастановы рады сапраўдны, калі на пасяджэньні прысутнічаюць ня меньш паловы сяброў. Справы вырашаюцца па большасьці галасоў. Калі галасы разаб'юцца пароўну, голас старшыні у радзе пераважвае.

**71.** Рада склікаецца старшынёю не радзей аднаго разу у два месяцы, водлуг вымаганьня ня меньш трох сяброў рады або водлуг падачы кіраўніцтва. Старшыня рады абвязан склікаць пасяджэньне рады.

**72.** На абавязку рады ляжыць;
а) кіраваньне агульным напрамкам дзейнасьці кіраўніцтва;
б) зацьверджваньне правілаў і інструкцыяў па апэрацыям банку;
в) зацьверджваньне каштарысаў банку;
г) разгляданьне складзеных кіраўніцтвам гадавых справаздачаў і дачы аб іх заключэньняў агульнаму сходу;
д) папярэдняе разгляданьне пытаньняў, якія належаць падачы на агульны сход, і даклады па гэтым пытаньням агульнаму сходу;
е) разгляданьне і ў належных выпадках вырашэньне усіх пытаньняў, якія падае кіраўніцтва на вырашэньне рады;
і ж) дача агульнаму сходу справаздачы аб свайй працы.

### Г. Рэвізійная камісія.

**73.** Для праверкі справаздаўнасьці, маемасьці, опэрацыяў і справаў банку выбіраецца агульным сходам на адзін год рэвізійная камісія у колькасьці ня меньш трох асобаў з ліку акцыанэраў банку. Сябрамі рэвізійнай камісіі ня могуць быць сябры кіраўніцтва, рады банку, а так сама і служачыя яго.

**74.** Старшыня рэвізійнай камісіі выбіраецца сябрамі яе з яе складу.

**75.** На рэвізійную камісію ускладаецца:
а) праверка за год знаходзячыхся ў загадзе банкіу грошаў, маемасьці і тавароў і усякага гатунку каштоўнасьцяў і зьвераньне іх з кнігамі і дакумэнтамі;

б) праверка справаздачы, кнігаў і дакумэнтаў і падача агульнаму сходу акцыянэраў заключэньняў аб справаздачы за год;

в) дача заключэньняў па скаргам на кіраўніцтва банку і ўрадавых асобаў, у выпадку падачы гэткіх скаргаў у рэвізійную камісію.

**76.** Рэвізійная камісія зьбіраецца старшынёю яе водлуг патрэбы. Аб сваей чыннасьці рэвізійная камісія вядзе запісы у асобай кнізе.

**77.** Кіраўніцтвам банку даюцца у загад рэвізійнае камісіі усе неабходныя матар'ялы дзеля рэвізіі справаздаўнасьці, маемасьці, опэрацыяў і справаў.

### V. Справаздаўнасьць банку.

**78.** Опэрацыйны год банку лічыцца з 1 кастрычніка па 30 верасьня ўключна.

**79.** Гадавая справаздача павінна заключаць у сабе прыбытак, выдатак і рэшту па зробленым у працягу году зваротам банку па кожнаму роду гэтых зваротаў асобна і вывад прыбытку і выдатку.

**80.** Гадавая справаздача павінна быць складзена і падпісана кіраўніцтвам не пазьней трох месяцаў пасьля канца опэрацыйнага году.

Гадавая справаздача кіраўніцтва і увагі па ей савету і рэвізійнай камісіі за два тыдні да агульнага сходу раздаюцца кіраўніцтвам акцыянэрам.

**81.** Да падачы агульнаму сходу справаздача разам з кнігамі і дакумэнтамі праверяецца рэвізійнай камісіяй. Заключэньне камісіі дакладываецца агульнаму сходу.

Гадавы баланс банку, зацьверджаны агульным сходам агалашваецца у газэце „Экономическая Жизнь".

**83.** Свае штомесячныя балансы і гадавую справаздачу з усім дадаткамі кіраўніцтва падае народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, а копіі—народным камісарыятам земляробства РСФСР, УССР, БССР і рэспублік Закаўскай федэрацыі.

### VI. Разьмяркаваньне прыбыткаў.

**84.** Па зацьверджаньні гадавое справаздачы агульным сходам, з сумы чыстага прыбытку ня меньш 10% адлічаецца ў запасны капітал, а рэшта прыбытку разьмяркоўваецца водлуг погляду агульнага сходу акцыянэраў.

Увага. На падставе існуючых законаў агульны сход вылучае адпаведную дадатковую ўзнагароду кіраўніцтву, савету і служачым банку.

### VII. Спыненьне справаў банку.

Банк спыняе свае дзеі водлуг пастановы агульнага сходу акцыянэраў, у парадку арт. арт. 56 і 58 гэтага статуту.

У выпадку ліквідаваньня справаў банку агульны сход водлуг падачы савету пазначае ліквідацыйную камісію і вызначае парадак і тэрмін ліквідацыі, а так сама права і абавязку ліквідацыйнай камісіі.

**87.** З назначэньнем ліквідацыйнай камісіі спыняюцца правы і абавязкі кіраўніцтва і савету банку, правы яе агульнага сходу застаюцца на увесь час ліквідаваньня у тэй жа моцы.

Агалошана у №№ 41 і 42 „Известія" ЦВК Саюзу ССР ад 19 і 20 лютага 1924 г.

---

## 52. Аб дадатковых льготах сялянству па выплаце натуральных падаткаў і звароту насенных ссудаў.

У дадатак да пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 году (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 3, арт. 66) аб дачы, ў мэгах адбудаваньня сялянскае гаспадаркі, шырокіх льготаў бяднейшаму сялянству па ліквідацыі задоўжанасьці ранейшых гадоў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляюць:**

**1.** Усе бяз выключэньня нядоімкі і задоўжанасьць, якія лічуцца за насельніцтвам па насеннай ссудзе, выданай да восені 1921 году ўключна, зьнімаюцца з яго поўнасьцю.

**2.** Зьдзейсьненьне увайшоўшых у законную моц прыгавораў па справам аб няўзносу усіх натуральных падаткаў, якія спаганяліся органамі народнага камісарыяту харчаваньня да 1 жніўня 1923 году і насенных ссудаў, выданых вясной 1920 году, прытрымоўваецца да канца працы камісіяў, утвораных на падставе арт. 3 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад 27 ліпеня 1923 году (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 3, арт. 66).

**3.** Камісіям, памянёным у арт. 2 гэтае пастановы, зьверх правоў, дадзеных пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад 27 ліпеня 1923 году, даецца права разьвязваць пытаньні аб зьняцьці нядоімак па натуральным падаткам, якія падлягаюць спагнаньню органамі народнага камісарыяту харчаваньня да 1 жніўня 1923 г., а па насеннай ссудзе вясны 1922 г. разьвязаць пытаньні аб частковым зьняцьці задоўжанасьці за насельніцтвам, моцна пацярпеўшым ад голаду і бяднейшым, а так сама аб працягненьні дзеля рэшты насельніцтва адстрочак звароту насеннай ссуды да восені 1925 г., з зваротам ссудаў, якія маюцца паступіць па гэтым адсрочкам на арганізацыю і разьвіцьцё мясцовых насенных фондаў (дэкрэт ЦВК і СНК 21 сьнежня 1923 г.—Зб. Зат. РСФСР 1921 г., № 81, арт. 1048).

**4.** У адносінах да тых асобаў, якія, згодна пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад 27 ліпеня 1923 г., (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1922 г., № 3, арт. 66) і арт. арт. 1 і 3 гэтае пастановы, будуць звольнены ад выплаты нядоімак па натуральным падаткам ці з якіх будзе зьнята або адсрочана задоўжанасьць па насенным ссудам, судовае пасьціганьне спыняецца, ўступіўшыя ў моц прыгаворы не выконваюцца, а асобы, якія адбываюць кару, ад яе звальняюцца, але без звароту канфіскаванае маемасьці.

5. Камісіі ў першую чаргу разьвязваюць пытаньне аб магчымасьці зьняцьця нядоімак па натуральным падаткам, а так сама зьняцьця ці адсрочкі задоўжанасьці па насенным ссудам з тых асобаў, якія у гэты час адбываюць кару за няўзнос памянёных падаткаў.

6. Пры спагнаньні насеннай ссуды, выданнай вясной 1922 году уключна, пеня не налічаецца.

7. На нядоімку па адзінаму натуральнаму падатку 1922—1923 г.г. пеня налічаецца з 1 кастрычніка 1923 году.

8. Гэтая пастанова зьдзейсьневаецца па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Цурупа.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
15 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 13 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 21 лютага 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Народных Камісараў

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**53.** **Аб перагаворах па прамым тэлеграфных правадох і аб часовым карыстаньні імі.**

У адмену пастановы СНК РСФСР ад 19 чэрвеня 1923 г. аб умовах перагавораў па прамых тэлеграфных правадох і часовага карыстаньня імі (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 60, арт 569) і арт. 7 таксаў за тэлеграфныя і радыстэлеграфныя адпраўкі (Весьнік ЦВК, СНК і СПА, № 8, арт. 231, дадатак), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць ніжэйнаступныя правілы дачы прамых тэлеграфных правадоў дзеля парагавораў і ў часовае карыстаньне на ніжэйнаступных умовах:

### А. Перагаворы па тэлеграфных правадох.

1. Да вядзеньня перагавораў па прамых тэлеграфных правадох дапушчаюцца як прадстаўнікі дзяржаўных установаў, гэтак і ўсе грамадзяне, і ніякіх асобых дазволаў дзеля гэтага не патрабуецца.

2. Па велічыне аплаты перагаворы падзяляюцца на дзьве катэгорыі. Да першай катэгорыі належаць:

а) перагаворы па прыгарадных правадох;

б) перагаворы па правадох, злучаючым два пункты, адлегласьць паміж якімі не перавышае 600 кілёмэтраў.

Да другой катэгорыі належаць перагаворы паміж пунктамі, знаходзячымися на адлегласьці звыш 600 кілёмэтраў.

3. Перагаворы па правадох дапушчаюцца толькі тады, калі гэта магчыма па тэхнічнаму становішчу правадоў і робяцца:

а) па правадох першай катэгорыі — пасьля абмену ўсіх тэлеграмаў, перадаваемых раней звычайных;

б) па правадох другой катэгорыі — пасьля абмену прыватных тэрміновых тэлеграмаў („СРЧ“).

4. За перагаворы па правадох другой катэгорыі плата вылічаецца незалежна ад адлегласьці за ўвесь час вынятку проваду з агульнай эксплёатацыі, г. е. з моманту фактычнага пачатку перагавораў да канца іх, прычым за адзінку прыймаюцца 3 хвіліны. Плата спаганяецца за слова велічынёю дубэльтовага тарыфу каштоўнасьці слова звычайнай тэлеграммы.

Норма гадзіннай нагрузкі у гэтым выпадку вызначаецца у залежнасьці ад укладу апаратаў, па якіх вядуцца перагаворы:

дзеля апарату Морзе . . . . . . . . . . . у 420 слоу.
„ „ Бодо і Юза . . . . . . . . . у 1000 „
„ „ Уітсона . . . . . . . . . . . у 1500 „

5. За перагаворы па правадох першай катэгорыі плата вылічаецца за кожныя 3 хвіліны перагавораў у наступнай велічыні:

пры адлегласьці ня звыш 25 кілемэтраў . —15 к. у чыр. выліч.
„ „ „ „ 25 кіл. да 50 кіл.—21 „ „ „ „
„ „ „ „ 50 „ „ 100 „ —39 „ „ „ „

Пры адлегласьці звыш 100 кілёмэтраў і за першыя 100 кілёмэтраў—39 коп., а за кожныя наступныя 50 ці частку 50 кілёмэтраў—15 коп. у чырв. вылічэньні.

Увага. Час меньш, 3 хвілінаў лічыцца за поўныя 3 хвіліны.

6. Вызаў да перагавораў па тэлеграфных правадох у абодвух выпадках робіцца службнымі тэлеграмамі, аплачваемымі водлуг ліку знаходзячыхся у іх словаў і водлуг тарыфу дзеля звычайных тэлеграмаў.

7. Паведамленьне аб вызаве адпраўляецца адраснаю установаю зараз жа з асобым пасыльным вызываемай асобе. Калі ж гэта асоба знаходзіцца абонентам мясцовай тэлефоннай сеці, дык службнае паведамленьне аб вызаве перадаецца па тэлефону.

### Б. Дазвол часова карыстацца дротам.

8. За дазвол часова карыстацца дротам іншым ведамствам, апрача ваеннага і марского, плата устанаўліваецца:

а) за дрот першай катэгорыі—водлуг таксаў за дрот, згодна арт. 5;

б) за дрот другой катэгорыі плата спаганяецца за слова велічынёю дубэльтовага тарыфу каштоўнасьці слова звычайнай тэлеграмы, прычым норма гадзіннай нагрузкі вызначаецца у 500 слоў незалежна ад таго, якога укладу апараты будуць уключаны у дрот. Няпоўныя 3 хвіліны у гэтым выпадку лічуцца за поўныя.

9. За дачу тэлеграфнага дроту дзеля карыстаньня ваеннаму і марскім ведамствам плата устанаўліваецца:

а) за дрот першай катэгорыі водлуг перагаворных таксаў, згодна арт. 5;

б) за дрот другой катэгорыі—згодна пастановы СПА ад 30 лістападу 1923 г.

**10.** Дрот лічыцца адданым у часовае карыстаньне ў тым выпадку, калі ён бярэцца на час ня менш паўсутак. Дрот, ўзяты на меньшы тэрмін, аплачваецца водлуг перагаворных таксаў адпаведнай катэгорыі.

**11.** Абмен бягучых тэлеграмаў па дроту спыняецца толькі па прыбыцьці на тэлеграф у абодвух пунктах асобаў, жадаючых весьці перагаворы, і ня інакш, як пасьля запрашэньня іх да апаратаў.

**12.** Учот часу, на працягу якога дрот быў скарыстан дзеля перагавораў, а так сама часу знаходжаньня дроту у веданьні іншых ведамстваў вядзецца толькі тымі тэлеграфнымі установамі, у якія паступілі запатрабаваньні аб дачы дроту. Тымі ж тэлеграфнымі установамі робіцца і спагнаньне платы за перагаворы і за дрот, дадзены у часовае карыстаньне.

**13.** Гэту пастанову зьдзейсьніць з 15 лютага 1924 г.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

5 лютага 1924 г. Москва—Крэмль.

Агалошана у № 37 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 г.

---

## 54. Аб з'іначаньні пачтова-тэлеграфных таксаў страхавога збору за лісты і пасылкі з абвешчанай каштоўнасьцю і збору за грашовыя пераводы.

Дзеля з'іначаньня п. „б“ падзелу IV, п. „а“ падзелу V і п. „г“ падзелу VI таксаў за перасылку пачтовых адправах. зацьверджаных Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР 14 жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 4, арт. 101) і пераведзеных у чырвонае вылічэньне пастановаю СНК Саюзу ССР ад 25 верасьня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 231), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Устанавіць страхові збор за лісты і пасылкі з абвешчанай каштоўнасьцю, у залежнасьці ад адлегласьці, на якую перасылаюцца паказаныя адпраўкі у наступнай велічыні:

| На адлегласьць: | % з суммы обвешчанае каштоунасьці: |
|---|---|
| Да 500 кілёмэтраў | 0,4% |
| Звыш 500 да 1000 кілемэт | 0,8% |
| „ 1000 „ 2000 „ | 1,2% |
| „ 2000 „ 3000 „ | 1,6% |
| „ 3000 кілемэтрау | 2% |
| Мінімум збору | 20 кап. |

**2.** Установіць збор за грашовыя пераводы, у залежнасьці ад адлегласьці, на якую пераводзяцца грошы, у наступнай велічыні:

| На адлегласьць: | % з сумы пераводу: |
|---|---|
| Да 500 кілёмэтраў | 0,2% |
| Звыш 500 да 1000 кілёмэтраў | 0,4% |
| „ 1000 „ 2000 „ | 0,6% |
| „ 2000 „ 3000 „ | 0,8% |
| „ 3000 кілёмэтраў | 1% |
| Мінімум збору | 15 кап. |

**3.** Велічыня збораў, устаноўленых арт. арт. 1 і 2 гэтае пастановы, вылічаецца пры перасылцы з аднэй губэрні (краіны), у другую—водлуг адлегласьці паміж губэрскімі (краіннымі)—местамі; пры перасылцы у межах аднэй губэрні (краіны)—водлуг адлегласьці паміж павятовымі местамі; пры перасылцы у межах аднаго павету—водлуг сапраўднай адлегласьці паміж пунктамі падачы і назначэньня.

**4** Гэту пастанову зьдзейсьніць з 15 лютага 1924 г.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 35 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 лютага 1924 г.

---

## 55. Аб павялічэньні процантнага адлічэньня на мясцовыя патрэбы ад паступленьняў адзінага сельска гаспадарчага падатку па Далёка-Усходняй краіне.

Дзеля з'іначаньня пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад 16 кастрычніка 1923 г. аб велічыні адлічэньня на мясцовыя патрэбы ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку па Далёка-Усходняй краіне (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 236), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Павялічыць дзеля губэрняў Далёка-Усходняй краіны адлічэньне на мясцовыя патрэбы ад паступленьняў адзінага сельска-гаспадарчага падатку з 25% да 30%.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 56. Аб утвареньні таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі:

Заслухаўшы зьвяртаньне групы грамадзянскіх і навуковых працаўнікоў (Г. Д. Красінскага, А. І. Швецава, акадэміка В. Н. Іпацьцева, проф. Б. С. Швецава, проф. А. В. Піліпова, проф. В. П. Волгіна, проф. А. В. Кубіцкага, акадэміка Н. Я. Марр, проф. Н. С. Дзержавіна, М. П. Крысьці) па пытаньню аб выяўленьні стратаў, панесенных грамадзянамі Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад замежнага замешацельства у ўнутраныя справы рэспублік, цяпер ўваходзячых у склад Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік,—Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

**1.** Здаволіць хадайніцтва вышэй памянёных асобаў аб дазволу ім утварыць „Таварыства дапамогі ахвярам інтэрвэнцыі“, пашыраючае сваю чыннасьць на ўвесь абшар Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**2.** Дазволіць часоваму кіраўніцтву таварыства у складзе праф. В. П. Волгіна, акад В. Н. Іпацьцева і Г. Д. Красінскага (Старшыня) прыступіць да ажыцьцяўленьня пастаўленых таварыствам задачаў.

3. Статут таварыства падлягае рэгістрацыі у ўстаноўленым парадку.

4. Усім органам Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік і саюзных рэспублік прапануецца рабіць таварыству поўную усім мерамі дапамогу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 34 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 лютага 1924 г.

---

**57. Аб прадажы пачтовых марак у ўстановах і прадпрыёмствау, не падуладных народнаму камісарыяту почт і тэлеграфау.**

1. Увясьці, водлуг згоды народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў з народным камісарыятам грашовых справаў і дзяржаўным банкам, прадажу пачтовых марак па назоўнай каштоўкасьці ўва ўсіх губэрскіх, павятовых (і адпавядаючых ім) аддзелам грашовых справаў і прыбыткова-выдатковых скарбніцах народнага камісарыяту грашовых спраў, у скарбніцах ашчаднасьці як самастойных, гэтак і знаходзячыхся пры установах народнага камісарыяту грашовых спраў і дзяржаўнага банку, і так сама у ва усіх канторах, аддзяленьнях і агенствах дзяржаўнага банку.

2. Дазволіць прадажу пачтовых марак з надбаўкай велічыні 10 процантаў на назоўную каштоўнасьць у ва ўсіх банках (апрача дзяржаўнага), іх аддзяленьнях і агенствах, у ва ўсіх валасных выканаўчых камітэтах і сельскіх саветах дзе не устанаўлена упрошчаных пачтовых опэрацыяў, у ва ўсіх коопэратыўных і прыватных магазынах і крамах, кіосках контрагенствах друку і буфэтах чыгуначных станцыяў.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 35 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 лютага 1924 г.

---

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**58. Аб выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы на суму 20.000.000 залатых рублеў.**

Адпаведна пляну грашовае рэформы, устаноўленаму дэкрэтам ЦВК і СНК Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы (Вісьнік ЦВК, СНК СПА 1924 г., № 1, арт. 7), Савет Працы і Абароны, на падставе арт. 4 гэтага дэкрэту, **пастанаўляе:**

Велічыню першага выпуску білетаў дзяржаўнае скарбніцы вызначыць у 20.000.000 (дванццаць мільёнаў) залатых рублёў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

5 лютага 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у 31 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 7 лютага 1924 г.

---

**59. Аб кроках да ўпарадкаваньня ляновага рынку і забясьпечаньню прамысловасьці сыр'ем.**

У мэтах ўпарадкаваньня ляновага рынку і зяпясьпечаньня ляновай прамысловасьці сыр'ем Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

1. Прымусіць дзяржаўныя ляновыя трэсты і фабрыкі спыніць загатоўку лёну ўласным апаратам, а гэтак сама праз другія арганізацыі, акрамя памянёных у ар. 2. Асобныя ляновыя фабрыкі могуць купляць валакно толькі ў прылегаючым да фабрыкі райёне.

2. Уся дзяржаўная загатоўка ляновага сыр'я як для экспорта, гэтак сама, для прамысловасьці павінна рабіцца толькі гэтакімі арганізацыямі: Лёнагандлем, Дзяржгандлям, Лёнацэнтрам, Цэнтрасаюзам, Хлебапрадуктам, а гэтак сама іншымі дзяржаўнымі і каоперацыйнымі арганізацыямі.

3. Прымусіць загатоўчыя арганізацыі з ўсей наліўнасьці маючых у нас запасаў лёну, а гэтак сама з паступовых загатовак, здавальняць ў пэршую чаргу патрэбы дзяржаўнай ляновай прамысловасьці.

4. Утварыць пры камісіі па унутраным гандлю поўнамоцную камісію ў складзе двух прадстаўнікоў ляновай прамысловасьці па назначэньню вышшага савету народнай гаспадаркі Саюзу ССР, двух прадстаўнікоў ляноваэкспортных арганізацыяў па улагоджаньню апошніх, прадстаўніка народнага камісарыяту земляробства РСФСР і прадстаўніка камісіі па ўнутраным гандлю пад старшынством апошняга для рашэньня ўсіх пытаньняў па ляновых загатоўкам.

На вышэйназначаную камісію ускладаецца:

а) сачыць за правядзеньням ў жыцьцё гэтае пастановы;

б) адзначаньне неабходных працэнтных суадносін паміж разьмерамі вывазу лёну закардон і разьмерамі здавальненьня лёнам дзяржпрамысловасьці;

в) Адзначаньне неабходнага календарнага парадку здавальненьня ляновай прамысловасьці сыр'ём і устанаўленьне яе асортымэнту;

г) разгляданьне пытаньняў аб арганізацыі загатоўчых дзеяў на ляновых рынках, як у адносінах устанаўленьня гранічных загатоўчых цэнаў, гэтак і ў адносінах парадку загатаваньняў.

д) Адзначаньне пляну фінансіраваньня ляновых загатаваньняў і распрацоўка мераў да яго практычнага з'дзейсьненьня.

Пры разгляданьні пытаньняў паказаных у літ „г“ гэтага пункту склад камісіі павінен быць папоўнен прадстаўніком НКГС і прадстаўніком дзяржаўнага банку.

**5.** Усе пастановы памянёнай ў ар. 4 поўнамоцнай камісіі прадстаўляюцца на разгляданьне старшыні камісіі па ўнутраным гандлю, разьвязаньні якога з'яўляюцца канчатковымі

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

Агалошана у № 47 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 лютага 1924 г.

---

**60. Палажэньне аб пастаяннай сыр'явой нарадзе пры камісіі Савету Працы і Абароны на ўнутраным гандлю.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Для выяўленьня пытаньняў зьвязаных з ўнутраннім і надворным гандлям сельска-гаспадарчым і тэхнічным сыр'ём (лес, хлапок, лен, шэрсьць, скура, пушніна, цукровая буракі, табака, алейныя насеньня, пенька і інш. віды сыр'я), а гэтак сама пытаньні падтрыманьня і разьвіцця ў Саюзе ССР належных галін сельскай гаспадаркі і прамыслоў пры камісіі Савету Працы і Абароны па ўнутраным гандлю („Комвнуторг“) устанаўляецца пастаянная сыр'евая нарада (ПСН),

**2.** У заданьні нарады ўваходзюць:

а) заданьне сыр'евога рынку, умоваў загатаўленьня сыр'я і выяўленьня мераў перасьцярогі зьмягчэньня сыр'евога крызізу;

б) раз'паўсюджаньне раёнаў закупкі сыр'я;

в) распрацоўка пытаньняў аб астандарцізацыі сыр'я.

г) распрацоўка пытаньняў аб канцінгентаў для вывазу сыр'я закардон і ўвозу яго ў межы Саюзу ССР і аб кантраліраваньні якасьці ўвознага і вывознага сыр'я.

д) падгатаваньне і даваньне заключэньняў па ўсім законапраэктам рэгуліруюшчым вытворчасьць, паляпшэньне культуры, пераапраўцоку і гандаль сельскай гаспадарчым тэхнычным сыр'ём;

е) апрацоўка ўсіх другіх мераў, якія могуць дапамагаць вастанаўленньню і разьвіцьцю вытворчасьці і апрацоўкі сельска-гаспадарчага сыр'я і гандлю імі; ў асабістасьці абмеркаваньне мерапрыемстваў, неабходных для палепшаньня цяпер працуючых укладаў старадаўнейшай апрацоўкі сыр'я.

**3.** У склад заўсёды істнуючай сыр'явой нарады ўваходзюць: старшыня і два намесьнікі, назначаныя камісіяй па унутраным гандлю і, ў якасьці сяброў, прадстаўнікі ад вышшага савету народнае гаспадаркі, народнага камісарыяту вонкавага гандлю, народнага камісарыяту харчаваньня, народнага камісарыяту грашовых справаў, дзяржаўнага банку, дзяржаўнае грамадзянскае камісіі, цэнтральнай статыстычнай управы, ўсерасійскага цэнтральнага савету прафэсыянальных саюзаў, а гэтак сама прадстаўнікі пастаянных сыр'явых нарадаў пры камісіі ўнутранага гандлю саюзных рэспублік. (арт. 10.).

У склад пастаяннай сыр'явой нарады ўваходзюць гэтак сама прадстаўнікі вялікіх сыр'явых і прамысловых арганізацыяў і аб'еднаньняў агульнасаюзнага значэньньня па сьпісу складзенаму камісіяй па унутраным гандлю і зацьверджанаму Саветам Працы і Абароны.

**4.** Пры пастаяннай сыр'явой нарадзе прымаюць удзел адмысловыя сэкцыі па асобным відам сыр'я (лясная, хлапковая, па шэрсьці, скураная, пацукровым расьлінам.

**5.** Пытаньні датычна асобных відаў сыр'я загадзьдзя разглядаюцца належнай сэкцыяй, пасьля чаго уносяцца ў пленум нарады.

**6.** Пастаяная сыр'явая нарада мае права запрашаць на свае пасяджэньні і на ўсе пасяджэньні сэкцыяў спэцыялістаў з правам дарадчага голасу.

**7.** Пастановы свае па наказаным у ар. 2 пытаньням, патрабуючых зацьверджаньня ЦВК, СНК і СПА пастаяная сыр'явая нарада, падае ў адпаведныя вышэйшыя органы праз камісію па унутраным гандлю з заключэньнем дзяржаўнае агульнаплянавай камісіі.

Іншыя пастановы нарады ўваходзюць ў моц па зацьверджаньні іх камісіяй па ўнутранным гандлю, ў іншых выпадках па згодзе з зацікаўленымі управамі.

**8.** Пастаянная сыр'явая нарада мае права патрабаваць ад ўсіх ведамстваў і установаў дачы ўсіх вестак, неабходных для разгляду паказаных ў ар. 2 пытаньняў.

**9.** Для тэхнычнага выкананьня ўсей працы, нарада карыстаецца апаратам камісіі па ўнутраным гандлю.

**10.** Пастановамі эканамічных нарадаў, саюзных рэспублік могуць быць арганізованы пастаяныя сыр'явыя нарады працуючыя на грунце палажэньняў ўнесяных на зацьвержаньне памянёных эканамічных нарадаў з заключэньням камісіі ўнутраняга гандлю пры СПА Саюзу ССР.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

9 лютага 1924 г. Масква — Крэмль.

Агалошана у № 54 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 3 сакавіка 1924 г.

---



Главлит № 19.050. Тираж 1.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий“ Издательства „Красная Новь“. Пименовская, 1/16.